Уладзімір Хільмановіч
Сяргей Чыгрын

# Каляндар Слонімшчыны

Дні і гады, асобы і падзеі

Мінск, «Кнігазбор», 2018

УДК 821.161.3-4
ББК 84(4Беи)
Х45

**Хільмановіч, У.**

Х45 Каляндар Слонімшчыны : Дні і гады, асобы і падзеі / Уладзімір Хільмановіч, Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 108 с.
ISBN 978-985-7207-12-1.

Каляндар адлюстроўвае падзеі, якія адбыліся на Слонімшчыне ў мінулых стагоддзях, а таксама год, дзень, месяц нараджэння і смерці вялікіх і вядомых асобаў Слонімшчыны і тых, хто тут жыў, вучыўся і працаваў.

**УДК 821.161.3-4**
**ББК 84(4Беи)**

---

*Даведачнае выданне*
**Хільмановіч** Уладзімір
**Чыгрын** Сяргей

12+

**Каляндар Слонімшчыны**

*Дні і гады, асобы і падзеі*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі, рэдактар Алена Спрытніч, набор Сяргея Чыгрына, вёрстка Ларысы Гарадзецкай, карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 27.07.2018. Фармат 60×84/16. Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 6,3. Ул.-выд. арк. 2,33. Наклад 99 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.

**ISBN 978-985-7207-12-1**



# Каляндар на кожны дзень

Шмат гадоў аўтары «Календара Слонімшчыны» занатоўвалі слаўтыя і трагічныя падзеі і з’явы слонімскай зямлі, дні нараджэння і смерці знакамітых і вядомых слонімцаў, а таксама тых асобаў, якія пэўны час тут жылі, вучыліся ці працавалі. Безумоўна, выбар датаў і персаналій мае ў значнай ступені суб’ектыўны характар. Галоўным крытэрыем адбору асобаў служыла прыналежнасць да беларускага руху ў розных яго праяўленнях (удзел у нацыянальна-вызваленчых паўстаннях, падпольных рухах, палітычных, грамадскіх, рэлігійных, культурных арганізацыях, а таксама асветніцкая, душпастырская, навуковая, пісьменніцкая, публіцыстычная, спартыўная дзейнасць і г. д.).

Пададзены ў календары і адкрыцці некаторых музеяў, навучальных установаў, грамадскі і культурных і палітычных выданняў, прадпрыемстваў і калектываў, а таксама найбольш масавыя мітынгі і дэманстрацыі, якія адбываліся на Слонімшчыне. Разам з тым у «Календары Слонімшчыны» не знайшлі адлюстраванне некаторыя іншыя беларускія падзеі, якія маюць непасрэднае дачыненне да слонімскай зямлі, найперш з прычыны адсутнасці зафіксаванай даты, прывязкі да канкрэтнага дня ці дзён. Тое ж датычыць і асобаў, даты нараджэння і смерці якіх невядомыя. Няма ў календары і сучасных слонімскіх дзеячаў, якія працягваюць жыць і працаваць у нашы дні.

Адна з найважнейшых задач календара — гэта адлюстраваць і паказаць асноўныя падзеі, а таксама дзень і месяц нараджэння і смерці вялікіх і вядомых асобаў Слонімшчыны. Даты ўсе падаюцца паводле новага (грыгарыянскага) стылю. Вельмі верагодна, што ў наш каляндар не патрапілі пэўныя важныя падзеі і вартыя ўшанавання асобы, бо дакладныя даты нараджэння і смерці некаторых дзеячаў слонімскай зямлі, нават у маштабах былога Слонімскага павета, на жаль, да гэтага часу невядомыя. Дадатковую складанасць часта стварала блытаніна старога і новага стыляў у розных крыніцах. Вядома ж, «Каляндар Слонімшчыны» з гадамі і дзесяцігоддзямі можа перавыдавацца і дапаўняцца. І гэта добра, і так павінна быць.

Падобным календаром сёння не можа пахваліцца ні адзін райцэнтр. Таму добра было б, каб у кожным раёне Беларусі выйшлі падобныя

календары і каб іх жыхары памяталі і ўшаноўвалі знакамітых людзей і адзначалі важныя даты і юбілеі.

«Каляндар Слонімшчыны» адрасаваны перш за ўсё тым, хто цікавіцца гісторыяй сваёй маленькай радзімы, а таксама ўсім зацікаўленым нашай агульнай гісторыяй — бібліятэкарам, настаўнікам, вучням, навукоўцам, гісторыкам, краязнаўцам, сябрам грамадскіх арганізацый і супрацоўнікам райвыканкамаў.

*Уладзімір Хільмановіч,*
*Сяргей Чыгрын*




# Студзень

**1 студзеня**

1467 — Нарадзіўся Жыгімонт I Стары, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1506–1548 гадах.

1815 (паводле іншых звестак, 20 снежня 1814) — У Варшаве памёр Ян Канопка, генерал Вялікага Княства Літоўскага, удзельнік паўстання 1794 года, вайны 1812 года на баку Напалеона. Месца пахавання невядомае. Нарадзіўся ў вёсцы Скоўдзічы.

1944 — У Слоніме выйшаў першы нумар беларускамоўнага тыднёвіка «Слонімскі кур'ер» накладам 15 тысяч асобнікаў.

1990 — Адкрыты Слонімскі беларускі драматычны тэатр.

**2 студзеня**

1906 — Нарадзіўся схіархімандрыт Парфірый (Рыгор Байдакоў), царкоўны дзеяч, з імем якога звязана цэлая эпоха ў гісторыі Жыровіцкага манастыра.

1927 — У вёсцы Кастровічы адбыўся вялікі сход гуртка Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, на якім прысутнічалі 106 чалавек. Польская паліцыя спрабавала разагнаць сход, але атрымала адпор.

1948 — У вёсцы Новадзявяткавічы нарадзіўся Уладзімір Весялуха, беларускі паэт і педагог. Жыў і памёр у Вілейцы.

**3 студзеня**

1770 — У Слонімскім старостве пачаліся антыфеадальныя выступленні сялян.

**4 студзеня**

1591 — Каралём Жыгімонтам III па хадайніцтве Льва Сапегі Слоніму нададзены гарадскі герб.

**5 студзеня**

1810 — Памёр Казімер Рагоўскі, тэолаг-езуіт, філосаф, педагог. Вучыўся і працаваў у Слоніме, дзе ў 1735 годзе ўступіў у езуіцкі ордэн.

2012 — У Слоніме памёр Міхаіл Рылко, беларускі калекцыянер і журналіст.

**6 студзеня**

1892 — У вёсцы Арляняты (Смаргонскі раён) нарадзіўся Адам Станкевіч, беларускі рымска-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч, асветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст. Жыў і служыў у Слоніме ў 1938–1939 гадах у касцёле Беззаганнага зачацця Святой Дзевы Марыі.

1914 — У Віцебску нарадзіўся Тодар Лебяда (Пятро Шырокаў, памёр у 1970 годзе ў Разанскай вобласці, пахаваны ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага раёна, Расія), беларускі літаратар, дысідэнт, вязень ГУЛАГа. У 1960–1961 гадах жыў і працаваў у Слоніме.

1924 — У Слоніме пачало працу этнаграфічна-археалагічнае таварыства, якое ўзначальваў Язэп Стаброўскі.

**7 студзеня**

Каляды (Раство Хрыстова) па юльянскім календары.

**8 студзеня**

1954 — Слонім стаў раённым цэнтрам Гродзенскай вобласці.

1980 — У Беластоку памёр Канстанцін Кіслы, беларускі праваслаўны, грамадскі і культурны дзеяч, кампазітар і дырыжор. У пачатку 1930-х гадоў жыў і дзеіў у Слоніме.

2002 — Памёр Янка Карповіч, слонімскі педагог, паэт, грамадскі актывіст.

**9 студзеня**

1874 — Памёр Францішак Ксаверы Пуслоўскі, у 1830-я гады маршалак Слонімскага павета.

1941 — У вёсцы Хадзявічы нарадзілася Валянціна Ададурава, беларуская настаўніца і паэтка, аўтарка адзінага зборніка паэзіі «Глыбінка» (Слонім, 1994). Памерла ў 1995 годзе, пахавана ў вёсцы Елка Зэльвенскага раёна.



2005 — Памёр Лаўрэн Клыбік, беларускі дзеяч у Вялікабрытаніі і Бельгіі, фармацэўт, гамеапат. Нараджэнец вёскі Хадзявічы.

**10 студзеня**

1985 — У Маскве памёр Аляксандр Вайсенберг, фізік-эксперыментатар, спецыяліст у галіне ядзернай фізікі і фізікі элементарных часціц. Нарадзіўся ў Слоніме.

1986 — Каля вёскі Талькаўшчына пацярпеў крушэнне ваенны самалёт МІГ-21, лётчык Сяргей Крошын загінуў.

**11 студзеня**

1921 — Нарадзіўся Аляксандр Бялоў, заслужаны артыст Беларусі. У пасляваенны час жыў у Слоніме, працаваў у Слонімскім народным тэатры.

**12 студзеня**

1946 — Адбылася сесія Слонімскага раённага Савета дэпутатаў, якая разгледзела і зацвердзіла пяцігадовы план аднаўлення і далейшае развіццё народнай гаспадаркі Слонімшчыны пасля вайны.

1993 — Памёр Янка Пякарскі, грамадскі і рэлігійны дзеяч у Вялікабрытаніі. Родам з вёскі Сурынка.

**13 студзеня**

1919 — Нямецкія войскі пакінулі Слонім.

**14 студзеня**

1919 — У Слонім увайшлі часці Чырвонай Арміі (Гродзенскі полк).

1939 — Ксёндз Адам Станкевіч, адзін з лідараў беларускага адраджэння міжваеннага часу, прымусова выселены польскімі ўладамі ў Слонім, дзе напісаў свае «Каляндарныя нататкі».

**15 студзеня**

1926 — У Заходняй Беларусі выйшаў першы нумар сатырычнага часопіса «Маланка» (выдаваўся ў Вільні да 26 снежня 1928 года, выйшлі 43 нумары). Свае творы ў ім друкавалі і слонімскія аўтары.

1940 — Увядзенне новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу на далучанай да СССР тэрыторыі Заходняй Беларусі. Слонімскі раён улучаны ў Баранавіцкую вобласць.

1968 — У Слоніме памёр Язэп Стаброўскі, беларускі археолаг, краязнавец, заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея. Нарадзіўся ў Слоніме. Пахаваны ў вёсцы Орлавічы Слонімскага раёна.

1974 — Памёр Барыс Пішчыкевіч, вайсковец, Герой Савецкага Саюза. Нарадзіўся ў вёсцы Сасноўка.

**16 студзеня**

1903 — У Слоніме нарадзіўся Павел Жданаў, вайсковец, Герой Савецкага Саюза.

1934 — У вёсцы Мяльканавічы адбыўся школьны страйк. Дзеці вяскоўцаў выйшлі на дэманстрацыю з лозунгамі «Мы патрабуем школы на роднай мове!», «Далоў паланізацыю!». Польская паліцыя не змагла знайсці арганізатараў страйку.

2000 — У Гродне адбылася агульнабеларуская сустрэча ветэранаў нацыянальна-вызвольнага руху — вязняў сталінскіх канцлагераў. На яе прыехалі ў тым ліку людзі, якія навучаліся ў Альбярцінскай школе СБМ.

**17 студзеня**

1732 — У маёнтку Воўчын (Камянецкі раён) нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1764–1795 гадах.

**18 студзеня**

1930 — У Слоніме выйшаў з друку апошні нумар газеты на польскай мове «Echo Słonimskie» («Слонімскае рэха»).

1930 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Сцяпан Міско, тэатразнавец, кандыдат мастацтвазнаўства, публіцыст. Памёр у Мінску ў 2010 годзе.



**19 студзеня**

1832 — У Слоніме з’явілася гарадская паліцыя.

1897 — На млыне братоў Куніц у Слоніме адбыўся выбух паравога катла. Загінулі чатыры чалавекі і два было паранена.

1965 — У склад Слоніма далучаны Альбярцін.

**20 студзеня**

1532 — Вялікі князь Жыгімонт Стары надаў Слоніму магдэбургскае права (пацвярджалася ў 1591 і 1679, скасаванае ў 1776).

1955 — У Гданьску памёр Лукаш Дзекуць-Малей, беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч. Пахаваны на гданьскіх могілках. Нараджэнец вёскі Малыя Шастакі (Дзятлаўскі раён). Жыў у Слоніме.

**21 студзеня**

1929 — Ноччу ў Слоніме з’явіліся першыя ўлёткі кампартыі Заходняй Беларусі і Польшчы.

1962 — Нарадзіўся Уладзімір Комлеў, воін-інтэрнацыяналіст, загінуў у Афганістане. Вучыўся ў Слонімскай СШ № 5, працаваў на Слонімскай мэблевай фабрыцы.

**22 студзеня**

1863 — Пачалося нацыянальна-вызвольнае паўстанне.

1918 — У акупаваным немцамі Слоніме адбыўся першы адкрыты рабочы сход, прысвечаны памяці ахвяр крывавых падзей 1905 года ў Петраградзе.

1970 — Памёр Іван Дабрыян, дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху ў 1920–1930-х гадах на Слонімшчыне.

**23 студзеня**

1978 — Адбыўся пуск першай чаргі Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі.

**24 студзеня**

1932 — У Альбярціне пад рэдакцыяй Антона Неманцэвіча выйшаў першы нумар рэлігійнага часопіса «Да Злучэньня».

**25 студзеня**

1944 — У Слоніме памёр Антон Карніцкі, беларускі мастак. Пахаваны ў Слоніме, магіла не знойдзена.

**26 студзеня**

1990 — Беларуская мова Вярхоўным Саветам БССР абвешчана ў Беларусі адзінай дзяржаўнай.

**27 студзеня**

1597 — Па хадайніцтве слонімскага старосты Льва Сапегі ў Слоніме пачаўся першы сеймік Вялікага Княства Літоўскага. Падобныя сеймікі ў Слоніме праводзіліся да 1685 года.

1886 — У вёсцы Блудзень (цяпер вёска Першамайская, Бярозаўскі раён) нарадзіўся Васіль Дружчыц (Друшчыц), беларускі гісторык, педагог. Вучыўся ў Жыровічах.

**28 студзеня**

1588 — Зацверджаны III Статут ВКЛ.

1982 — Памерла Алена Лябецкая, дзяячка Таварыства беларускай школы. Нараджэнка хутара Лагуцева (Дзятлаўскі раён). Жыла ў Слоніме.

2011 — У ЗША памёр Барыс Данілюк, дзеяч СБМ, беларускай эміграцыі (Германія, ЗША). Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (ЗША). Нараджэнец вёскі Старыя Дзявяткавічы.

**29 студзеня**

1919 — У лесе каля Альбярціна закатаваны бальшавікамі слонімскі каталіцкі дэкан Ян Вэбер (1878–1919).

**30 студзеня**

1667 — Заключэнне Андрусаўскага перамір'я паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Канец вайны 1654–1667 гадоў.

1915 — Нарадзілася Рэгіна Бялецкая-Гвяздоўская, беларуская і польская мастачка. Вучылася і жыла ў Слоніме.



1930 — У Слонімскім павеце польская паліцыя арыштавала сакратара беларускай арганізацыі «Змаганне» Сымона Жыткевіча. Пасля аднаго года ўтрымання ў Лукішскай турме ў Вільні Віленскі акруговы суд прыгаварыў яго да 4 гадоў катаргі.

**31 студзеня**

1831 — Актыўна пачаўся рэкруцкі набор у рускую армію. У Слонімскім павеце тады налічвалася 26 278 мужчын, у рэкруты забралі самых дужых і маладых — 156 чалавек.



• *Тодар Лебяда*



• *Герб Слоніма*



• *Адам Станкевіч*



• *Уладзімір Весялуха*



• *Валянціна Ададурава*



• *Сцяпан Міско*



• *Рэгіна Бялецкая*



• *Лукаш Дзекуць-Малей*

# Люты

**1 лютага**

1717 — «Нямы сойм» практычна пагадзіўся на пратэктарат Расіі над Рэччу Паспалітай.

1863 — Літоўскі правінцыйны камітэт (утвораны летам 1862) абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі, на тэрыторыі Гродзенскай губерні пачаліся ўзброеныя дзеянні паўстанцаў.

**2 лютага**

1838 — Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстання 1863 года. У 1862 годзе бываў на Слонімшчыне, распаўсюджваў «Мужыцкую праўду».

1861 — Памёр Міхал Гамаліцкі, беларускі лекар, педагог, гісторык. Пахаваны ў Вільні. Вучыўся ў Жыровічах.

**3 лютага**

1936 — У турме ў Беластоку ад збіванняў і катаванняў памёр Юры Кавалеўскі, дзеяч моладзевага руху ў Заходняй Беларусі. Паходзіў з вёскі Шылавічы.

1941 — Памёр Генрых Мілачэўскі, польскі паэт і археолаг, які жыў на Слонімшчыне. Пахаваны ў вёсцы Моўчадзь Баранавіцкага раёна.

**4 лютага**

1746 — У маёнтку Марачоўшчына Слонімскага павета (па іншых звестках, у Сяхновічах Кобрынскага павета) нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША.

1921 — Слонімскі павет увайшоў у склад Навагрудскага ваяводства.

1933 — У Слоніме выйшла з друку аднадзёнка на польскай мове «Nasz Lot» («Наш палёт»).

**5 лютага**

1940 — Пачалася дэпартацыя некаторых катэгорый насельніцтва з Заходняй Беларусі ва ўнутраныя раёны СССР.

**6 лютага**

1921 — Выйшаў дэкрэт, які надаў беларускай, яўрэйскай (ідыш), польскай і рускай мовам статус дзяржаўных у БССР.

**7 лютага**

1985 — У Жыровічах памёр Яўген Валатоўскі, вучоны сакратар Жыровіцкай духоўнай семінарыі, выкладчык Жыровіцкага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі, краязнавец, калекцыянер.

**8 лютага**

1893 — У Санкт-Пецярбургу нарадзіўся Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі святар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашысцкіх турмаў. Працаваў у Слоніме, Альбярціне, Сынковічах.

1914 — У Баранавічах нарадзіўся Валянцін Таўлай, паэт, дзеяч заходнебеларускага руху. У 1920–1921 гадах з бацькамі жыў у Зэльве, потым — у вёсцы Рудаўка, вучыўся ў Вялікай Кракотцы і ў Слоніме, працаваў у Лідзе.

**9 лютага**

Еўрапейскі дзень інтэрнэту.

**10 лютага**

1452 — Памёр Свідрыгайла (нар. каля 1370), вялікі князь ВКЛ у 1430–1432 гадах.

1909 — Памёр Эдвард Паўловіч, мастак, асветнік, удзельнік паўстання 1863–1964 гадоў, мемуарыст. Вучыўся ў Жыровічах і ў Слоніме.



**11 лютага**

1807 — У вёсцы Варацэвічы (Іванаўскі раён) нарадзіўся Напалеон Орда, беларускі і польскі мастак, кампазітар, піяніст, педагог. Маляваў палац Пуслоўскіх у Альбярціне, палац Слізняў у Новадзявяткавічах і Жыровічы.

1943 — Дыверсійная група Пракопа Герасімчыка, якая ўваходзіла ў склад Ленінскай партызанскай брыгады, падпаліла кардонную фабрыку ў Альбярціне.

2002 — Адбылася аб'яднаная сесія Слонімскіх гарадскога і раённага Саветаў дэпутатаў, на якой утвораны адзіны раённы Савет дэпутатаў.

**12 лютага**

1798 — У Пецярбургу памёр Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1764–1795 гадах. Пахаваны ў касцёле Св. Кацярыны на Неўскім праспекце. У красавіку 1938 года парэшткі перапахаваны ў касцёле ў Воўчыне (Камянецкі раён).

1980 — У Слоніме было створана прадпрыемства меліярацыйных сістэм.

**13 лютага**

1806 — У Слоніме нарадзіўся Юльян Корсак, польскамоўны паэт і перакладчык (памёр у 1885 годзе). Творы яго перакладаліся на беларускую мову.

1903 — У вёсцы Вострава (Зэльвенскі раён) нарадзіўся Серафім Татарын, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог. Вучыўся ў Жыровіцкай семінарыі, быў намеснікам старшыні Слонімскага павятовага камітэта Грамады, намеснікам старшыні Слонімскай акруговай управы ТБШ.

**14 лютага**

1487 — Слонім наведаў пасол Венецыянскай рэспублікі Амброджа Кантарыні (1429–1499).

1865 — У Парыжы памёр Францішак Юндзіл (нарадзіўся ў 1825 годзе ў фальварку Югалін, Івацэвіцкі раён), вайсковец, у 1863 годзе — паўстанцкі начальнік Слонімскага павета, камандзір атрада (каля 300 чалавек).

**15 лютага**

1926 — На Слонімшчыне нарадзіўся Мікола Ягаўдзік, беларускі вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, ЗША).

**16 лютага**

1999 — У Беларусі пачаўся першы пасля абвяшчэння незалежнасці перапіс насельніцтва.

**17 лютага**

1904 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Міхаіл Міско, доктар гістарычных навук. Памёр у Маскве ў 1972 годзе.

**18 лютага**

1928 — У вёсцы Жыровічы нарадзіўся Мікалай Касцюк, беларускі грамадскі дзеяч у эміграцыі.

1977 — У Слоніме загадам Міністэрства аўтатранспарту БССР зацверджана аўтакалона № 2451 (цяпер аўтапарк № 3).

**19 лютага**

1910 — Нарадзіўся Палікарп Манькоў, перакладчык, выдавец, беларускі дзеяч у эміграцыі. У гады Другой сусветнай вайны жыў у Слоніме.

1920 — У бежанстве ў г. Арэнбургу (Расія) нарадзіўся Аляксандр Жукоўскі, педагог, краязнавец, заснавальнік народнага музея СШ № 4 г. Слоніма, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь.

1955 — Памёр Піліп дэ Рэжыс, соцый майстра навіцыята і адміністратар прыхода ў Альбярціне ў 1929–1932 гадах.

1979 — У Зэльве памёр Янка Генію ш, беларускі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГа. Пэўны час жыў і працаваў у Слоніме. Пахаваны ў Зэльве.

**20 лютага**

1817 — У Слоніме складзена мапа дарог Слонімскага павета Літоўска-Гродзенскай губерні з пазначэннем даўжыні шляхоў і важнейшых на ёй мастоў.



**21 лютага**

Міжнародны дзень роднай мовы.

1918 — Абвешчана Першая Устаўная грамата БНР і створаны першы беларускі ўрад — Беларускі Народны Сакратарыят.

**22 лютага**

1946 — У пасёлку Альбярцін (цяпер мікраараён Слоніма) пачала працаваць стацыянарная кінаўстаноўка. Глядзельная зала была разлічана на 160 чалавек.

1912 — Пачала дзейнічаць тэлефонная сетка Слонімскага павета.

**23 лютага**

1944 — Стварэнне Беларускай Краёвай Абароны.

1987 — У Дзераўноўскай сярэдняй школе адкрыўся гісторыка-краязнаўчы музей.

**24 лютага**

1902 — У Крынках (Беласточчына) нарадзіўся Янка Геніюш, беларускі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГа. Жыў пэўны час у Слоніме, пахаваны ў Зэльве.

**25 лютага**

1652 — У Слоніме на Замосці слонімцы пабілі маскоўскага пасла і асоб, якія яго суправаджалі.

1909 — У Слоніме нарадзіўся Сяргей Дарожны (сапраўднае Сяргей Серада), беларускі пісьменнік, перакладчык, знішчаны НКУС.

1935 — Слонімскі аддзел Польскага краязнаўчага таварыства пачаў супрацоўніцтва з польскім бюро падарожжаў «Orbis» з мэтаю пашырэння турыстычнага руху ў Слонімскім павеце.

1960 — У Мінску памерла Уладзіслава Луцэвіч, беларуская літаратуразнаўца, культурная дзяячка, жонка Янкі Купалы, якая дапамагала стварыць Вялікакракоцкую сельскую бібліятэку, некалькі разоў наведвала вёску Вялікая Кракотка.

1986 — У СШ № 10 Слоніма адкрыўся музей «Горад Слонім і яго героі».

**26 лютага**

1932 — У Мінску выйшаў першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва», дзе друкаваліся і друкуюцца цяпер у тым ліку і слонімскія літаратары.

**27 лютага**

1831 — У Санкт-Пецярбургу памёр Іосіф Казлоўскі, кампазітар, музыкант і педагог. Пэўны час жыў і працаваў у тэатры Агінскага ў Слоніме. Нарадзіўся ў 1757 годзе ў Варшаве.

1919 — Створана Літоўска-Беларуская ССР са сталіцай у Вільні.

**28 лютага**

1942 — У Ленінградзе ад голаду памёр Канстанцін Пушкарэвіч, беларуска-расійскі славіст, літаратуразнавец, педагог. Нарадзіўся ў Слоніме.

**29 лютага**

1468 — На сойме вялікім князем Казімірам Ягелончыкам выдадзены Судзебнік — першы кодэкс крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права ВКЛ.



• *Кастусь Каліноўскі*



• *Серафім Татарын*





• *Антон Неманцэвіч*



• *Напалеон Орда*



• *Генрых Мілачэўскі са сваякамі*



• *Іосіф Казлоўскі*



• *Тадэвуш Касцюшка*



• *Валянцін Таўлай з другой жонкаю Лідзіяй Сяргееўнай. 1945 г.*





• *Сяргей Дарожны*



• *Аляксандр Жукоўскі*



• *Аляксандр Талерчык з жонкай Тамарай, дзецьмі і цёткай Верай Селівончык, 1962 г.*

# Сакавік

**1 сакавіка**

1566 — Набыў законную сілу Другі Статут Вялікага Княства Літоўскага.

1581 — Створаны Галоўны літоўскі трыбунал — вышэйшы судовы і апеляцыйны орган у ВКЛ.

**2 сакавіка**

1919 — Слонім занялі польскія войскі.

2013 — У вёсцы Вецявічы памёр Мікола Арочка, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык, доктар філалагічных навук. Пахаваны ў роднай вёсцы.

**3 сакавіка**

1833 — Памёр Войцех Пуслоўскі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, філантроп, у 1797–1816 гадах — маршалак Слонімскага павета.

1913 — Памёр Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат, калекцыянер. Нараджэнец Альбярціна.

1918 — У Брэсце паміж Савецкай Расіяй і Нямеччынай падпісаная мірная дамова, паводле якой Беларусь страціла значную частку сваёй тэрыторыі.

**4 сакавіка**

1900 — У Слоніме нарадзіўся Іешуа Ваўпянскі (Іехошуа Алуфам), спартыўны дзеяч Ізраіля. Памёр у 1980 годзе ў Ізраілі.

1928 — Слонімскі падпольны райкам КПЗБ удала «правёў» выбары ў польскі сейм, якія прынеслі перамогу рабоча-сялянскаму блоку.

1940 — У Слоніме адкрылася школа медыцынскіх сясцёр.



**5 сакавіка**

1944 — У Слоніме адкрылася гарадская выстава мясцовых мастакоў.

**6 сакавіка**

1883 — У вёсцы Варонічы нарадзіўся Янка Бялькевіч, беларускі мовазнавец, педагог, аўтар «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» (выйшаў пасля смерці Бялькевіча, у 1970 годзе).

1944 — Выдадзены ўказ аб стварэнні Беларускай Краёвай Абароны (БКА).

**7 сакавіка**

1947 — Старшыня Шылавіцкага сельсавета Ганна Кароль аднагалосна абрана дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Слонімшчыны.

1963 — Слонім стаў горадам абласнога падпарадкавання.

**8 сакавіка**

1989 — Памёр Мікола Ягаўдзік, беларускі вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, ЗША). Нараджэнец Слонімшчыны.

1992 — У Слоніме памёр Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падполля 1946–1947 гадоў у Заходняй Беларусі, вязень савецкіх турмаў і канцлагераў. Нараджэнец вёскі Ваўчкі. Пахаваны ў вёсцы Клепачы.

**9 сакавіка**

1918 — Абвяшчэнне Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага з’езда Другой Устаўной граматы БНР.

**10 сакавіка**

1711 (верагодна 12.03) — Нарадзіўся Міхал Антоні Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, перакладчык, літаратар. Жыў у Слоніме.

1926 — У вёсцы Глоўсевічы нарадзіўся Васіль Супрун, беларускі паэт, краязнавец, археолаг, вязень ГУЛАГа.

**11 сакавіка**

1872 — Памёр Плакід Янкоўскі (нарадзіўся ў вёсцы Вайская (цяпер Камянецкі раён) 1810), праваслаўны святар, пісьменнік. Працаваў у 1830-х гадах у Жыровічах.

1911 — У вёсцы Трашчыцы (Карэліцкі раён) нарадзіўся Леў Гарошка, грэка-каталіцкі святар, архімандрыт, беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, даследчык гісторыі рэлігіі ў Беларусі, культуролаг, літаратар, аўтар многіх артыкулаў, кніг. Служыў святаром у Жыровічах.

**12 сакавіка**

1669 — Сейм у Гродне вызваліў Слонім на чатыры гады ад падаткаў.

**13 сакавіка**

1917 — У Пецярбургу загінуў Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік беларускага грамадскага і літаратурнага руху пачатку ХХ стагоддзя. Пахаваны ў Сызрані (Расія). Нараджэнец Жыровічаў.

1944 — У Слоніме пачалася мабілізацыя ў Беларускую Краёвую Абарону.

**14 сакавіка**

1613 — Зацверджаны герб Жыровічаў: на блакітным полі дзве мужчынскія постаці, з якіх правая стаіць на каленях, а левая трымае ў працягнутых руках кнігу.

1940 — У Слоніме створана авіяцыйная школа пілотаў для бамбардзіроўшчыкаў.

1990 — У Джэксане (штат Нью-Джэрсі, ЗША) памёр Аляксандр Асіпчык, царкоўны дзеяч у эміграцыі (Германія, ЗША). Нараджэнец вёскі Пляшкі (цяпер Партызанаўка).

**15 сакавіка**

1913 — У Слоніме нарадзіўся Сымон Антонік, сябра Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Памёр у 1958 годзе ў Чыкага (ЗША).

1921 — У бежанстве ў Томску нарадзіўся Васіль Мялешка, доктар гістарычных навук, прафесар. Маленства і школьныя гады прайшлі ў вёсцы Мяльканавічы.



1991 — Памёр Станіслаў Лорэнц, польскі гісторык, краязнавец і культуролаг, аўтар кнігі на польскай мове «Wycieczki Slonimskie» (1933).

1993 — У Новасібірску (Расія) памёр Іосіф Юдзелевіч, доктар хімічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі СССР. Нарадзіўся ў Слоніме.

1994 — У Мінску на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

**16 сакавіка**

1931 — Памёр Леанід Клён (Леанід Бялькевіч), паэт і грамадскі актывіст з вёскі Юхнавічы.

**17 сакавіка**

1857 — Альбярцінская суконная фабрыка на Варшаўскай прамысловай выставе ўзнагароджана сярэбраным медалём за высокую якасць сукна, драпу, трыко, корту і фланэлі.

**18 сакавіка**

1791 — Прыняты закон «Аб вольных гарадах у Рэчы Паспалітай».

1921 — Паміж РСФСР і Польшчай падпісана Рыжская дамова, якая падзяліла Беларусь тэрытарыяльна.

1984 — У Слоніме памёр Язэп Вількоўшчык (Іосіф Вількоўскі), беларускі паэт, байкапісец і калекцыянер.

**19 сакавіка**

2017 — У Слоніме адбыўся «марш недармаедаў», у якім прынялі ўдзел больш за 300 чалавек.

**20 сакавіка**

1440 — У выніку змовы забіты Жыгімонт Кейстутавіч (нарадзіўся каля 1365 года), вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага ў 1432–1440 гадах.

1493 — Вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр падараваў у спадчыну ваколіцы Жыровічаў вядомаму рэлігійнаму і дзяржаўнаму дзеячу Аляксандру Солтану.

1959 — Дзяржаўная камісія прыняла Слонімскі льнозавод да эксплуатацыі.

**21 сакавіка**

1927 — Польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Каля 400 кіраўнікоў і актывістаў Грамады былі рэпрэсаваныя.

**22 сакавіка**

1999 — Упершыню ў Слоніме адбыўся Еўра-Disco для слонімскай моладзі, якое правялі сябры слонімскага грамадскага аб'яднання «Ветразь» і моладзевага клуба аматараў беларускага року.

**23 сакавіка**

1899 — У Жалудку (Шчучынскі раён) нарадзілася Вольга Галіна (дзявочае Грудзінская, па мужу Александроўская), народная артыстка Беларусі. Сыграла ролю Соф'і ў спектаклі «Апошнія» Слонімскага народнага тэатра ў 1963 годзе.

1985 — У Мінску памёр Аляксандр Бялоў, заслужаны артыст Беларусі. У канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў жыў у Слоніме.

1933 — Памёр Уладзімір Пянткевіч, кіраўнік усходняй місіі, супер'ер законнага дому айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1925–1933 гадах.

**24 сакавіка**

1794 — Пачалося вызвольнае паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам.

**25 сакавіка**

1918 — Абвяшчэнне Трэцяй Устаўной Граматы Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзень Волі.

1953 — У вёсцы Валеўка (Навагрудскі раён) нарадзіўся Іван Шэга, слонімскі доктар і грамадскі дзеяч. Жыў, працаваў і памёр у Слоніме.



**26 сакавіка**

1830 — У вёсцы Піронім пачала працаваць суконная фабрыка Бронскіх.

**27 сакавіка**

1899 — У вёсцы Малая Бераставіца (Бераставіцкі раён) нарадзіўся Аляксей Васіленя, грамадска-палітычны дзеяч, у Другую сусветную вайну — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія).

**28 сакавіка**

1998 — У Слоніме створана моладзевае грамадскае аб'яднанне «Ветразь».

**29 сакавіка**

1894 — Нарадзіўся Міхаіл Фрыдман, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, рэжысёр Слонімскага народнага тэатра ў 1948–1965 гадах.

1935 — У вёсцы Шылавічы нарадзіўся Вячаслаў Сцяпура, удзельнік слонімскай антысавецкай арганізацыі «Польскі падпольны камітэт» у 1946–1948 гадах.

1996 — У гарадах Беларусі прайшла серыя акцый супраць інтэграцыі Беларусі і Расіі.

**30 сакавіка**

1778 — У вёсцы Хмяльніца нарадзіўся Іосіф (Юзаф) Быхавец, філосаф, асветнік, перакладчык. Памёр у 1845 годзе.

**31 сакавіка**

2008 — У Слоніме памёр Андрэй Вайтовіч, беларускі дзеяч вызвольнага руху, сябра БНП, вязень ГУЛАГа. Пахаваны ў Слоніме.



- *Васіль Супрун*



- *Ганна Кароль*



- *Янка Бялькевіч*



- *Леў Гарошка*





- *Плакід Янкоўскі*



- *Леанід Клён*



- *Васіль Мялешка*



- *Іван Шэга*



• *Уладзімір Хлябцэвіч*



• *Аляксей Васіленя і Сяргей Хмара, 1940-я гг.*



• *Партрэт Аляксандра Солтана з кнігі «Wycieczki Słonimskie» (1933)*

# Красавік

**1 красавіка**

1909 — У вёсцы Пляшкі (цяпер Партызанаўка) нарадзіўся Аляксандр Асіпчык, мастак, царкоўны дзеяч у эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

1943 — Расстраляны (ці памёр у турме) Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі святар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашысцкіх турмаў. Працаваў у Слоніме, Альбярціне, Сынковічах.

1962 — У Слоніме створаны мантажна-эксплуатацыйны ўчастак, які ў 1975 годзе перайменаваны ў міжраённае вытворчае ўпраўленне газавай гаспадаркі.

1976 — Памёр Іван Тарасюк, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне ў 1946–1947 гадах. Пахаваны ў Слоніме. Нараджэнец вёскі Глоўсевічы.

**2 красавіка**

1936 — У Слоніме адбыліся дэманстрацыя і мітынг салідарнасці з барацьбой кракаўскіх рабочых.

1944 — У Слоніме адкрылася выстава народнага мастацтва, на якой было паказана майстэрства ткачых Слонімскай акругі.

1963 — У Жыровічах зачынена Мінская духоўная семінарыя.

**3 красавіка**

1918 — У вёсцы Хмяльніца нарадзілася Марыя Несцер (памерла ў 1989), Герой Сацыялістычнай Працы.

**4 красавіка**

1557 — У маёнтку Астроўна (Бешанковіцкі раён) нарадзіўся Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, канцлер, магнат. Валодаў Слонімскім староствам з 1586 года.

1906 — У вёсцы Шылавічы нарадзіўся Юры Кавалеўскі, дзеяч КПЗБ.

1911 — У вёсцы Касцяні нарадзіўся Сяргей Багданчук, моладзевы актывіст і грамадскі дзеяч у Заходняй Беларусі. Замучаны польскай паліцыяй у 1933 годзе. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і ў пасёлку Мухавец.

**5 красавіка**

1923 — У вёсцы Старыя Дзявяткавічы нарадзіўся Барыс Данілюк, дзеяч Саюза беларускай моладзі, беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Памёр і пахаваны на беларускіх могілках у штаце Нью-Джэрсі (ЗША).

1989 — Памёр Антон Зомбэк, які ў 1931–1936 гадах жыў у Альбярціне, быў суперыёрам і міністрам усходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне.

**6 красавіка**

1882 — Альбярцінская суконная фабрыка на Усерасійскай прамысловай выставе ўзнагароджана сярэбраным медалём за высокую якасць сукна, драпу, трыко, корту і фланелі.

**7 красавіка**

2013 — У Слоніме памёр Генадзь Вількіцкі, заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь.

**8 красавіка**

1897 — У Слоніме быў створаны першы яўрэйскі прафсаюз.

**9 красавіка**

1921 — На Слонімшчыне нарадзіўся Васіль Брэль, адзін з кіраўнікоў краёвай школы СБМ у Альбярціне. Забіты падчас вайны.

**10 красавіка**

1635 — Памёр Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Фундаваў у Слоніме кляштар францысканцаў, касцёл канонікаў рэгулярных.



1931 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Іван Чыгрын, беларускі літаратуразнавец, паэт, крытык, кандыдат філалагічных навук.

1964 — У Парыжы памёр Уладзіслаў Пуслоўскі, грамадскі дзеяч, гісторык, мецэнат. Нараджэнец Альбярціна.

1998 — У Слоніме выйшаў першы нумар газеты Слонімскай рады БНФ «Змагар».

**11 красавіка**

Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў.

**12 красавіка**

Міжнародны дзень палёту чалавека ў космас.

**13 красавіка**

1940 — Дэпартацыя з тэрыторыі Заходняй Беларусі сем'яў рэпрэсаваных і асоб, якія ўцяклі за мяжу.

1970 — У Мінску памёр Андрэй Пракапчук, доктар медыцынскіх навук, дэрматолаг, акадэмік. Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры.

**14 красавіка**

1835 — У вёсцы Сянно (Навагрудскі раён) нарадзіўся Валяр'ян Вільчэўскі, лекар, удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў у атрадзе Францішка Юндзіла ў Слонімскім павеце.

1913 — У вёсцы Какошчыцы нарадзіўся Іван Дабрыян, актыўны дзеяч у Заходняй Беларусі, вязень польскіх турмаў, дэпутат Народнага сходу Заходняй Беларусі, арганізатар партызанскага руху ў час вайны, былы старшыня Слонімскага райвыканкама. Яго імем названа адна з вуліц Слоніма.

**15 красавіка**

2016 — Памёр Аляксандр Пасько, заслужаны настаўнік Беларусі, пачынальнік слонімскай дзіцяча-юнацкай школы веславання, паэтпесеннік. Нарадзіўся ў вёсцы Баравікі.

**16 красавіка**

1923 — Нарадзілася Аліна Яноўская, польская артыстка тэатра і кіно. Дзяцінства акцёркі прайшло ў Жыровічах, дзе яе бацька працаваў дырэктарам лясной школы. Памерла 13 лістапада 2017 года.

1947 — Памёр Антон Дамброўскі, беларускі грэка-каталіцкі дзеяч, філосаф, тэолаг. З 1925 года працаваў у Альбярціне і Сынковічах.

**17 красавіка**

1804 — У Слоніме нарадзіўся Аўраам Вайнберг, пачынальнік руху дынастыі слонімскіх хасідаў. Памёр у Слоніме ў 1883 годзе.

**18 красавіка**

Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін.

1952 — За адну ноч з Заходняй Беларусі на ўсход СССР вывезлі 1683 сям'і, якія былі абвінавачаны ў «варожай дзейнасці супраць калгасаў».

1963 — У Маскве памёр Максім Левін, антраполаг, этнограф і археолаг, даследчык этнічнай антрапалогіі Сібіры, Далёкага Усходу і Японіі, доктар гістарычных навук, прафесар. Нарадзіўся ў Слоніме.

**19 красавіка**

1907 — У вёсцы Вялікая Кракотка нарадзіўся Рыгор Акулевіч, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Грамады і ТБШ, дзеяч эміграцыі ў Канадзе (Федэрацыя рускіх канадцаў).

**20 красавіка**

1467 — Аляксандр Солтан на Гарадзенскім сойме атрымаў рэкамендацыйны ліст ад вялікага князя літоўскага Казіміра, у якім яму дазвалялася вандраваць па Еўропе. Наведаў Германію, Сіцылію, Рым, Іерусалім, Бургундзію і Англію. Ён сустракаўся з папам Паўлам II, а англійскі кароль Эдуард IV узнагародзіў яго ордэнам Залатога Руна.

1666 — На Слонімшчыне нарадзіўся Крыштап Станіслаў Завіша, пісьменнік-мемуарыст, перакладчык, аратар, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.



1758 — У Слонімскім павеце нарадзіўся Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт, базыльянін.

1905 — Сяляне вёскі Піронім пачалі самавольна пасвіць жывёлу ў лесе пана Іосіфа Бронскага. Лясныя вартаўнікі, якія хацелі перашкодзіць гэтаму, былі закіданы камянямі і пабіты кіямі.

**21 красавіка**

1688 — У Дзятлаве (Слонімскі павет) нарадзіўся Мікалай Фаўстын Радзівіл, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ.

**22 красавіка**

1965 — У слонімскай СШ № 4 адкрыты школьны музей, які праз шэсць гадоў стаў народным і ўвайшоў у лік лепшых школьных музеяў Беларусі.

**23 красавіка**

1831 — Рускі генерал Станкевіч забараніў кірмаш у Слоніме. Гэта было зроблена з прычыны пагрозы захопу горада паўстанцамі.

**24 красавіка**

1968 — Адбылося зліццё населеных пунктаў: Вялікія і Малыя Шылавічы сталі вёскай Вялікія Шылавічы, Жыровічы і Стайкі сталі Жыровічамі, Вялікая і Малая Кракоткі — вёскай Вялікая Кракотка.

1997 — Выйшаў першы нумар адроджанай «Газеты Слонімскай» (наклад 3000 асобнікаў).

**25 красавіка**

1909 — У Косаве (Слонімскі павет) нарадзіўся Юзаф Шыманчык, беларускі фатограф. Да Другой сусветнай вайны і ў час вайны жыў у Слоніме.

1944 — У Слоніме выйшаў першы нумар беларускамоўнай «Слонімскай газеты».

1972 — У г. Самэрсэт (ЗША) памёр Віктар Войтанка (у эміграцыі Віктар Васілеўскі), дзеяч самакіравання, БКА, у 1943 годзе працаваў лекарам у Слоніме, медык, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі.

**26 красавіка**

Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

1861 — У Адэсе (Украіна) памёр Міхаіл Канарскі, польскі філантроп, журналіст і педагог. Нараджэнец Слоніма.

1883 — У варшаўскім шпіталі памёр Напалеон Орда, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстання 1830–1831 гадоў. Маляваў Альбярцін і Новадзявяткавічы. Пахаваны ў родавым склепе ў Янаве.

1969 — У Слонімскай сярэдняй школе № 4 адкрыўся музей рэвалюцыйнай і баявой славы.

1996 — У Слоніме праведзены мітынг-рэквіем, арганізаваны БНФ, прысвечаны дзясятым угодкам аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**27 красавіка**

1613 — У Жыровічах заснаваны ўніяцкі кляштар.

1947 — У Мінску памёр Валянцін Таўлай, беларускі паэт, дзеяч заходнебеларускага руху. У 1920–1921 гадах з бацькамі жыў у Зэльве і ў вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне, вучыўся ў Вялікай Кракотцы і Слоніме. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

**28 красавіка**

1876 — Адбыліся хваляванні рабочых Альбярцінскай суконнай фабрыкі.

1899 — Нарадзіўся Станіслаў Лорэнц, польскі гісторык, краязнавец і культуролаг, аўтар кнігі на польскай мове «Wycieczki Slonimskie» (1933).

1943 — У вёсцы Якімавічы з асаблівай жорсткасцю расстраляна сям'я Струпаўцоў. Злачынства здзейснілі камандзір савецкага партызанскага атрада імя Панамарэнкі Іван Зайцаў і начальнік асобага аддзела Іван Багуслаўскі.

**29 красавіка**

1946 — Закончылася аднаўленне Слонімскай кардонна-папяровай фабрыкі ў Альбярціне, якая пачала выпускаць прадукцыю даваеннага асартыменту.

1992 — У Шатландыі памёр Мікола Янушэвіч, беларускі дзеяч у эміграцыі, англамоўны паэт. Нараджэнец вёскі Сурынка.



**30 красавіка**

1632 — Памёр Жыгімонт III Ваза, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1587–1632 гадах.

2007 — Памёр Васіль Супрун, беларускі паэт, краязнавец, археолаг, вязень ГУЛАГа. Нараджэнец вёскі Глоўсевічы. Пахаваны ў Слоніме.

2017 — У Слоніме забітыя вядомы мясцовы скульптар і мастак Леанід Богдан і яго жонка. Пахаваны ў Слоніме.



• *Алесь Асіпчык*



• *Барыс Данілюк*



• *Аліна Яноўская*



• *Іван Чыгрын*



• *Станіслаў Лорэнц*



• *Рыгор Акулевіч*



• *Леў Сапега*



• *Юзаф Шыманчык са сваёй жонкай Аленай Ласько, Слонім,1930-я гады*

# Май

**1 мая**

1576 — Стэфан Баторый стаў каралём Рэчы Паспалітай.

1924 — У вёсцы Сянькоўшчына нарадзіўся Тодар Цімафейчык, грамадскі дзеяч у эміграцыі, стваральнік Згуртавання беларускіх камбатантаў у Бельгіі.

1927 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Яўген Багданчук, Герой Сацыялістычнай Працы.

1931 — У Слоніме нарадзіўся Алег Лойка, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык, педагог, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Памёр і пахаваны ў Слоніме.

1933 — У вёсцы Мяльканавічы памёр Уладзімір Бялько, рэдактар газеты «Піянер», грамадскі дзеяч і актывіст.

**2 мая**

1917 — Нямецкі афіцэр Вальтэр Фэст апублікаваў вялікі артыкул у «Ваеннай баранавіцкай газеце» пра Слонім.

**3 мая**

1791 — Вялікі Сойм Рэчы Паспалітай у Варшаве прыняў новую Канстытуцыю.

1924 — Памёр Якаў Салавейчык, слонімскі фатограф, жыў у другой палове XIX стагоддзя.

1929 — У Слоніме нарадзіўся Уладзімір Шундрык, беларускі педагог, грамадскі дзеяч, краязнавец і паэт.

**4 мая**

1946 — У Слоніме створана беларускае патрыятычнае падполле «Чайка».

**5 мая**

1954 — У Беластоку памёр Павел Лысуха, царкоўны дзеяч, протаіерэй. Нараджэнец вёскі Сурынка.

2016 — У Гродне памёр Аляксандр Талерчык, беларускі краязнавец, грамадскі актывіст, фундатар беларускіх спраў. Нараджэнец вёскі Парэчча, пра якую напісаў і выдаў кнігу. Пахаваны на могілках у Аульсе.

**6 мая**

1831 — У Слоніме памёр Міхаіл Лявіцкі, расійскі генерал ад інфантэрыі, удзельнік вайны 1812 года. Родам з Магілёўшчыны, пахаваны на Ружанскіх могілках у Слоніме.

1928 — У вёсцы Сяргеевічы нарадзіўся Вася Крайні, піянер-герой. Загінуў у студзені 1944 года. Адна з вуліц Слоніма носіць яго імя.

**7 мая**

1967 — У вёсцы Мірная нарадзіўся Сяргей Мыслівец, воін-інтэрнацыяналіст, загінуў у Афганістане ў 1986 годзе.

**8 мая**

1674 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Ян Сабескі (быў ім да 1696 года).

1896 — У вёсцы Кавалішкі (Браслаўскі раён) нарадзіўся Антон Дамброўскі, беларускі грэка-каталіцкі дзеяч, філосаф, тэолаг. З 1925 года працаваў у Альбярціне і Сынковічах.

**9 мая**

1934 — У Ганцавічах нарадзіўся Міхаіл Рылко, беларускі калекцыянер і журналіст. Жыў і працаваў у Слоніме.



**10 мая**

1914 — Прынята пастанова наконт электрычнага асвятлення ў Слоніме.

1938 — У Слоніме нарадзіўся Генадзь Вількіцкі, заслужаны трэнер Беларусі.

**11 мая**

1912 — Нарадзіўся Тадэвуш Мацяёўскі, аперарый у Альбярціне і Жыровічах (1930-я гады).

**12 мая**

2018 — У Марачоўшчыне каля Косава адкрылі першы ў Беларусі помнік Тадэвушу Касцюшку — нацыянальнаму герою Беларусі (скульптар Гэнік Лойка).

**13 мая**

1558 — Кароль Жыгімонт II Аўгуст увёў у Слоніме два двухтыднёвыя кірмашы.

1797 — Слонім наведаў расійскі імператар Павел I.

2013 — У Мінску памёр Уладзімір Раманоўскі, беларускі спартсмен, алімпійскі чэмпіён у веславанні на байдарках. Нарадзіўся ў Слоніме.

2014 — У Слоніме на будынку Слонімскага драматычнага тэатра адчынена мемарыяльная шыльда Міхалу Казіміру Агінскаму (скульптар Леанід Богдан).

**14 мая**

1613 — Мястэчка Жыровічы атрымала магдэбургскае права.

**15 мая**

1833 — Міхал Валовіч арыштаваны царскімі ўладамі Расіі і дастаўлены ў Гродна.

1912 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Анатоль Іверс (сапраўднае Іван Міско), беларускі паэт, публіцыст, журналіст.

**16 мая**

1686 — Паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй заключаны «Вечны мір».

1916 — Памёр Валяр'ян Вільчэўскі, лекар, удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў у атрадзе Францішка Юндзіла ў Слонімскім павеце. Нараджэнец вёскі Сянно Навагрудскага раёна.

**17 мая**

1861 — Зроблены першы ў свеце каляровы фотаздымак.

**18 мая**

Міжнародны дзень музеяў.

**19 мая**

Свята Слонімскай грэка-каталіцкай парафіі Святой Тройцы.

1667 — На грамаце караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра намалявана выява Жыровіцкай іконы Маці Божай — адзін з самых старажытных малюнкаў гэтай іконы.

**20 мая**

Свята абраза Маці Божай Жыровіцкай.

1928 — Адбыўся сход, прысвечаны будаўніцтву чыгункі Слонім–Навагрудак–Маладзечна. Але чыгунка не была пабудавана.

**21 мая**

Дзень абароны ад беспрацоўя.

**22 мая**

1990 — Адбылася прэзентацыя аперацыйнай сістэмы Windows 3.0.

**23 мая**

1784 — У Слоніме пачала працаваць габеленавая мануфактура.

**24 мая**

Дзень славянскай пісьменнасці.

1377 — Памёр вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Альгерд.



1946 — Слонімскі краязнаўчы музей гвалтоўна ператвораны ў Баранавіцкі абласны гісторыка-краязнаўчы музей.

**25 мая**

1881 — У Слоніме адбыўся вялікі пажар. Горад гарэў увесь дзень. Агонь знішчыў 12 вуліц. Згарэла 576 дамоў і архіў гарадской управы.

1898 — У Ленчыцах (Польшча) нарадзіўся Канстанцін Кіслы, беларускі праваслаўны, грамадскі і культурны дзеяч, кампазітар і дырыжор. У пачатку 1930-х гадоў жыў і дзеіў у Слоніме.

1905 — У мястэчку Казлоўшчына (Дзятлаўскі раён) нарадзіўся Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сіняк), беларускі пісьменнік, паэт, журналіст, выдавец, з 1944 года жыў у эміграцыі (Нямеччына, Канада). Да Другой сусветнай вайны і ў час акупацыі жыў у Слоніме.

**26 мая**

1522 — Староста слонімскі Ян Мікалай Радзівіл выдаў «Устаў павіннасцей мяшчан слонімскіх».

1879 — Памёр Мікіта Гарбачэўскі, архівіст, археолаг, крыніцазнавец. З 1831 па 1840 год у Жыровіцкай духоўнай семінарыі выкладаў рускую, грэцкую і яўрэйскую мовы, гісторыю.

1927 — Гуртком Таварыства беларускай школы ў вёсцы Вялікая Кракотка пастаўлены спектаклі «Паўлінка» па п'есе Янкі Купалы і «Заручыны Паўлінкі» Францішка Аляхновіча. Грошы ад спектакляў моладзь аддала на карысць бібліятэкі-чытальні.

**27 мая**

1831 — Адбылася эвакуацыя рускіх вайскоўцаў і чыноўнікаў са Слоніма на ўсход. У Слоніме гаспадарамі былі паўстанцы генерала Хлапоўскага, якія змагаліся за незалежную Рэч Паспалітую двух народаў.

1953 — У Слоніме пачалі выдавацца дзве газеты — «Голас калгасніка» (орган палітаддзела Рышчыцкай МТС) і «Трыбуна калгасніка» (орган палітаддзела Слонімскай МТС).

**28 мая**

1876 — У Слоніме нарадзіўся Самуіл (Шмуэль) Гіршорн, польскі і яўрэйскі паэт, перакладчык, публіцыст і выдавец. Загінуў у 1942 годзе ў Варшаве.

**29 мая**

Міжнародны дзень міратворцаў ААН.

**30 мая**

1639 — Каралеўскі сакратар А. Радван заклаў у Слоніме падмурак мураванага касцёла Святой Тройцы. Кіраваў будаўнічымі працамі муляр-майстар С. Тарашкевіч з Нясвіжа.

1829 — Памёр Францішак Сапега, генерал, удзельнік паўстання 1794 года, яго кіраўнік у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах. Трымаў у Дзярэчыне тэатр.

**31 мая**

1508 — Праездам Слонім наведаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II, які ехаў у Смаленск.

1800 — У Варшаве памёр Міхал Казімір Агінскі (нарадзіўся ў 1730 годзе), магнат, слонімскі староста, вялікі гетман літоўскі.



• *Алег Лойка*



• *Міхаіл Рылко*






• *Уладзімір Бялько*



• *Кастусь Кіслы (сядзіць злева) з беларускімі дзеячамі на эміграцыі.*



• *Міхал Казімір Агінскі*



• *Анатоль Іверс*



• *Сяргей Хмара, 1938 г.*



• *Успенскі сабор у Жыровічах*

# Чэрвень

**1 чэрвеня**

1434 — Памёр вялікі князь і кароль Ягайла (нарадзіўся каля 1348 года).

1911 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Якуб Міско, беларускі пісьменнік, журналіст.

**2 чэрвеня**

1777 — У Слоніме па ініцыятыве Міхала Казіміра Агінскага пачала працаваць друкарня.

**3 чэрвеня**

1863 — Адбылася бітва паміж паўстанцамі і царскімі войскамі каля вёскі Мілавіды Слонімскага павета.

1924 — У вёсцы Глоўсевічы нарадзіўся Іван Тарасюк, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне ў 1946–1947 гадах.

**4 чэрвеня**

1984 — Памёр Іван Хомчык, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне ў 1946–1947 гадах. Пахаваны на радзіме ў вёсцы Глоўсевічы.

**5 чэрвеня**

1817 — Нарадзіўся Аляксандр Сазонаў, архівіст, гісторык, філосаф, педагог. З 1839 па 1848 год працаваў у Слонімскім дваранскім вучылішчы. Памёр у 1886 годзе.

1859 — У Слоніме нарадзіўся Майкл Маркс, брытанскі прадпрымальнік, адзін з заснавальнікаў фірмы «Marks & Spencer».

**6 чэрвеня**

1863 — У Магілёве расійскімі карнікамі расстраляны Ільдафонс Анцыпа (нарадзіўся ў 1815 (?) у вёсцы Мілавань каля Гродна), публіцыст, удзельнік паўстанняў 1830–1831 і 1863 гадоў, палявы камандзір. Вучыўся ў Слоніме.

**7 чэрвеня**

Дзень, калі ў Слоніме адбываўся штогадовы Троіцкі кірмаш.

1492 — У Гродне памёр Казімір Ягелончык, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1440–1492).

1563 — Жыгімонтам II Аўгустам выдадзены Віленскі прывілей, які зраўнаваў у Вялікім Княстве Літоўскім у правах праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў.

1825 — У мястэчку Тургелі (цяпер Літва) нарадзіўся Эдвард Паўловіч, мемуарыст, мастак, асветнік, удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў. Вучыўся ў Жыровічах і ў Слоніме.

1997 — Рэдакцыя газеты «Слонімскі веснік» пачала выдаваць рускамоўны дадатак для падпісчыкаў «Мы приглашаем в гости». Ужо не выдаецца.

**8 чэрвеня**

1895 — У вёсцы Погіры (Дзятлаўскі раён) нарадзіўся Ігнат Дварчанін, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, літаратуразнавец, паэт, педагог. Працаваў настаўнікам у вёсцы Хмяльніца.

1939 — У Слоніме адбылася працэсія Божага Цела, у ёй прыняў удзел і ксёндз Адам Станкевіч.

**9 чэрвеня**

1728 — Нарадзіўся Казімір Рагоўскі, езуіцкі тэолаг, філосаф, педагог. Вучыўся і працаваў у Слоніме, выкладаў у Навагрудку.

1809 — Памёр Францішак Хамінскі (дата нараджэння невядомая), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся на Слонімшчыне.



**10 чэрвеня**

Антон Самуэль Дамброўскі (1774, Тураў — 1838), беларускі жывапісец і тэатральны мастак. Творчую дзейнасць пачынаў дэкаратарам у тэатры Агінскага ў Слоніме ў 1880 годзе.

1794 — У Гродне ўтвораная Цэнтральная дэпутацыя Вялікага Княства Літоўскага — выканаўчы орган паўстання 1794 года.

1923 — У Варшаве памёр Міхал Федароўскі, фалькларыст, этнограф, археолаг, калекцыянер. 9 гадоў жыў і збіраў фальклор у Слонімскім павеце. Сябраваў са слонімскім паэтам Гальяшам Леўчыкам. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках.

**11 чэрвеня**

1713 — У Слоніме пачалося будаўніцтва драўлянага езуіцкага касцёла Святога Іосіфа. Не збярогся.

**12 чэрвеня**

1642 — У Слоніме пабудавана сінагога ў стылі барока. Знаходзіцца сёння на вуліцы Савецкай, 1.

**13 чэрвеня**

1725 — У Слоніме пачала працаваць рэзідэнцыя Навагрудскага езуіцкага калегіума.

**14 чэрвеня**

1634 — Паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай дзяржавай падпісана Палянаўская мірная дамова, якой скончылася Смаленская вайна 1632–1634 гг.

**15 чэрвеня**

1736 — Пры рэзідэнцыі Навагрудскага езуіцкага калегіума ў Слоніме пачала дзейнічаць школа філасофіі.

**16 чэрвеня**

2006 — Памёр Іван Сяргейчык, беларускі празаік, паэт, вайсковец. Пахаваны ў Слоніме.

**17 чэрвеня**

1793 — У Гродне пачаўся апошні сойм Рэчы Паспалітай. Зацвердзіў другі падзел Рэчы Паспалітай і прыняў новую канстытуцыю.

1865 — Пачаліся падрыхтоўчыя работы па будаўніцтве Парэцкай царквы па ініцыятыве святара А. П. Гарачкі.

**18 чэрвеня**

1806 — У маёнтку Парэчча нарадзіўся Міхал Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызвольнага руху, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

1895 — У маёнтку Львоўшчына нарадзіўся Барыс Жабінскі, уладальнік фальварка Вараб'евічы да 1939 года.

**19 чэрвеня**

1669 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага абраны Міхал Вішнявецкі (кіраваў да 10 лістапада 1673 года).

1924 — У вёсцы Бычкі (Ушацкі раён) нарадзіўся Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі. Пэўны час жыў у Альбярціне каля Слоніма.

1941 — Дэпартацыя з тэрыторыі Заходняй Беларусі грамадзян некамуністычных грамадскіх і палітычных арганізацый.

1944 — У Бронскім лесе каля Слоніма загінулі камандзір савецкай разведгрупы маёр Кузьма Гнедаш і радыстка Клара Давідзюк.

1944 — Выйшаў з друку першы нумар газеты «Барацьба» Слонімскай антыфашысцкай арганізацыі. Выйшла ўсяго два нумары. Рэдактар газеты — паэт Анатоль Іверс (Іван Міско).

**20 чэрвеня**

1566 — У Грыпсхольме (Швецыя) нарадзіўся Жыгімонт III Ваза, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1587–1632 гадах.

2013 — У Мінску памёр Уладзімір Сакалоўскі, беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кандыдат філалагічных навук. Нараджэнец вёскі Мялькanaвічы.



**21 чэрвеня**

1762 — У Песках ахрышчаны Войцех Пуслоўскі, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, філантроп, у 1797–1816 гадах — маршалак Слонімскага павета.

1873 — Памёр Вацлаў Пелікан, былы рэктар Віленскага ўніверсітэта, прафесар-хірург. Нарадзіўся ў Слоніме.

1997 — У Слоніме ўпершыню адбыўся чэмпіянат свету па шашках сярод малодшых кадэтаў. У ім прынялі ўдзел юныя шашысты з Беларусі, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Азербайджана, Польшчы.

**22 чэрвеня**

1867 — Паводле рашэння рускага цара касцёл у Дзярэчыне зачынены, а вернікі былі пераведзены да парафіі ў Слоніме.

1941 — Напад фашысцкай Германіі на СССР. Працяг Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Гродзеншчыны.

1943 — У Беларусі ўтворана моладзевая патрыятычная арганізацыя «Саюз беларускай моладзі» (СБМ). Дзейла ў Беларусі да ліпеня 1944 года.

2003 — У шпіталі ў Бараўлянах (Мінскі раён) памёр Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі. Пахаваны ў Мінску. Пасля вайны пэўны час жыў у Альбярціне.

**23 чэрвеня**

Дзень дзяржаўнай службы ААН.

**24 чэрвеня**

1812 — У Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася Айчынная вайна 1812 года.

1923 — Нарадзіўся Іван Сухамлін, ганаровы грамадзянін Слоніма. Памёр у 2002 годзе.

**25 чэрвеня**

1652 — Мястэчка Жыровічы атрымала магдэбургскае права.

1660 — Адбыліся бітвы войскаў Рэчы Паспалітай з расейцамі пад Зэльвай, Галынкай, Дзярэчынам.

1840 — Расійскай імперыяй спынена дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года ў Гродзенскай, Віленскай і Мінскай губернях.

1894 — У Альбярціне нарадзіўся Уладзімір Ксяневіч, начальнік галоўнага штаба арганізацыі «Зялёны дуб», якая змагалася з бальшавікамі. 4 ліпеня 1939 года расстраляны органамі НКУС. Рэабілітаваны ў 1991 годзе.

**26 чэрвеня**

1941 — Слонім акупавалі нямецкія гітлераўскія войскі.

**27 чэрвеня**

1697 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага абраны Аўгуст II Моцны (кіраваў да 1733 года).

1941 — Каля вёскі Клепачы загінуў камандзір 6-га мехкорпуса Чырвонай арміі генерал-маёр Міхаіл Хацкілевіч.

**28 чэрвеня**

1660 — Пераможная бітва войскаў Рэчы Паспалітай над расійскім войскам ваяводы Хаванскага каля вёскі Палонка былога Слонімскага павета.

**29 чэрвеня**

1440 — Вялікім князем ВКЛ абраны Казімір IV Ягелончык, малодшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай.

1925 — У Мінску нарадзіўся Юры Астроўскі, беларускі біяхімік, акадэмік, грамадскі дзеяч. Жыў і працаваў у Слоніме, Гродне.

1940 — Дэпартацыя з тэрыторыі Заходняй Беларусі бежанцаў.

1881 — У Слоніме нарадзіўся Хайкл Лунскі, яўрэйскі публіцыст, літаратуразнаўца і бібліёграф. Загінуў у Віленскім гета ў 1942 годзе.

1947 — У Слоніме нарадзіўся пісьменнік-фантаст і перакладчык Барыс Зяленскі.



**30 чэрвеня**

1812 — Слонім пакінулі войскі рускага генерала Пятра Баграціёна, якія адышлі на ўсход. У Слонім увайшлі войскі арміі Напалеона.

1812 — У Слоніме падпісаны акт Канфедэрацыі мясцовай шляхты, якая выступіла на баку Напалеона.



- *Майкл Маркс*



- *Ігнат Дварчанін*



- *Міхал Валовіч*



- *Кузьма Гнедаш*



• *Міхал Федароўскі*



• *Іван Сяргейчык*



• *Васіль Быкаў*

# Ліпень

**1 ліпеня**

1569 — Падпісана Люблінская унія — міжнародна-прававы акт аб'яднання ВКЛ з Польшчай у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

1812 — Напалеон абвясціў узнаўленне Вялікага Княства Літоўскага і стварыў часовы ўрад ВКЛ.

1902 — У Адэсе нарадзіўся Антон Карніцкі, беларускі мастак. Жыў, працаваў і памёр у Слоніме.

1936 — У вёсцы Зарытава (Ляхавіцкі раён) нарадзіўся Янка Карповіч, педагог, паэт і грамадскі дзеяч. Жыў і працаваў у Слоніме.

**2 ліпеня**

Дзень вышыванкі.

1926 — На Слонімшчыне нарадзілася Ядвіга Сарачынская (Адамчук), кіраўнічка юначак СБМ у Альбярціне ў 1943–1944 гадах. Памерла пры родах у 1960-х гадах у Аўстраліі.

**3 ліпеня**

2014 — У Слоніме на вуліцы Пушкіна адкрылі помнік слонімскім юнакам, якія загінулі ў Афганістане, — Уладзіміру Комлеву, Мікалаю Кузьміцкаму, Сяргею Мысліўцу, Анатолю Скоку, Івану Ясюкевічу і Анатолю Супруну. Аўтар помніка — беларускі скульптар Уладзімір Церабун.

**4 ліпеня**

1930 — У вёсцы Мялькнавічы нарадзіўся Уладзімір Сакалоўскі, беларускі літаратуразнавец, перакладчык, паэт, кандыдат філалагічных навук.

**5 ліпеня**

1772 — Расія, Аўстра-Венгрыя, Прусія заключылі ў Пецярбургу трактат пра падзел Рэчы Паспалітай (першы падзел).

1944 — Пачалася Баранавіцка-Слонімская аперацыя.

**6 ліпеня**

Сусветны дзень пацалунка.

**7 ліпеня**

1572 — Памёр Жыгімонт II Аўгуст, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1548–1572 гадах, фармальна з 1529 года. Скончылася дынастыя Ягайлавічаў, якая кіравала ў ВКЛ і Польшчы 186 гадоў.

1633 — У Вільні памёр Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, канцлер, магнат. Пахаваны ў крыпце касцёла Святога Міхала. Валодаў Слонімскім староствам з 1586 года.

1882 — Нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі Янка Купала. Восенню 1939 года наведаў Слонім, сустракаўся з паэтам Гальяшам Леўчыкам.

1922 — На Слонімшчыне нарадзіўся Аляксандр Кароткі, гісторык, журналіст, дзеяч у эміграцыі. Пасля 1945 года лёс невядомы.

**8 ліпеня**

1993 — У Мінску пачаўся Першы з’езд беларусаў свету (доўжыўся 8–10 ліпеня).

**9 ліпеня**

1744 — Пры Навагрудскім езуіцкім калегіуме ў Слоніме пачаў функцыянаваць школьны тэатр.

**10 ліпеня**

1944 — Слонім пакінулі нямецкія войскі, увайшлі савецкія.

**11 ліпеня**

1887 — Нарадзіўся Караль Буржуа, першы неаўніяцкі езуіт, з траўня 1924 да снежня 1925 года працаваў у Альбярціне.



**12 ліпеня**

1941 — Гітлераўскі акупацыйны рэжым змяніў адміністрацыйныя межы Беларусі ў бок іх скарачэння. У выніку значная частка Гродзеншчыны адышла да Прусіі (Райху), некаторыя раёны — да Літвы.

1958 — У Слоніме нарадзіўся Павел Лойка, беларускі гісторык.

**13 ліпеня**

1704 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Ляшчынскі.

1925 — У вёсцы Сурынка нарадзіўся Мікола Янушэвіч, беларускі дзеяч у эміграцыі, паэт. Памёр у Шатландыі.

**14 ліпеня**

1863 — Каля вёскі Львоўшчына (Слонімскі павет) атрад Ізідара Лукашэвіча (псеўданім Галоска), паўстанцкага камандзіра ў Слонімскім павеце, даў бой расійскаму карнаму атраду. 7 паўстанцаў, у тым ліку Лукашэвіч, загінулі.

1944 — У Слоніме створаны зелянгас для вырошчвання расады кветкавых і агародных культур.

**15 ліпеня**

1410 — Адбылася Грунвальдская бітва, разгром Тэўтонскага ордэна войскам ВКЛ. Слонімская харугва брала ўдзел у бітве.

1903 — На хутары Лагуцева (Дзятлаўскі раён) нарадзілася Алена Лябецкая, дзяячка Таварыства беларускай школы. Жыла ў Слоніме.

1932 — У вёсцы Баравікі нарадзіўся Аляксандр Пасько, заслужаны настаўнік Беларусі, пачынальнік слонімскай дзіцяча-юнацкай школы веславання, паэт-песеннік.

1943 — У Жыровічах атручаны архімандрыт Серафім (Кудраўцаў), які быў намеснікам Жыровіцкай абіцелі.

**16 ліпеня**

1896 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Андрэй Пракапчук, доктар медыцынскіх навук, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук. Жыў і памёр у Мінску.

**17 ліпеня**

1919 — Урад Літоўска-Беларускай рэспублікі спыніў сваю дзейнасць.

1962 — У Слоніме памёр Фёдар Сінічкін, Герой Савецкага Саюза, былы старшыня Слонімскага гарвыканкама. Адна з вуліц Слоніма носіць яго імя.

**18 ліпеня**

1957 — У Лондане памёр Аўген Якубовіч, беларускі царкоўны дзеяч у эміграцыі. Нараджэнец вёскі Збочна.

**19 ліпеня**

1943 — У савецкім канцлагеры ў Камсамольску-на-Амуры загінуў Сяргей Дарожны (сапраўднае Серада), беларускі пісьменнік, перакладчык. Нарадзіўся ў Слоніме.

1944 — У Слоніме выйшаў з друку першы пасляваенны нумар газеты «Вольная праца», орган Слонімскага РК КП(б) Беларусі і райсавета дэпутатаў працоўных. Адказны рэдактар — Мікалай Бурсевіч.

**20 ліпеня**

1586 — Канцлер Леў Сапега атрымаў Слонім у пажыццёвае ўладанне.

1880 — У Слоніме нарадзіўся Гальяш Леўчык (Ляўковіч), беларускі паэт, празаік, публіцыст, калекцыянер, бібліяфіл, мастак, музыкант. Загінуў у Варшаве ў 1944 годзе.

**21 ліпеня**

1906 — Нарадзіўся Уладзімір Яршоў, вайсковец, ганаровы грамадзянін Слоніма. Памёр у 1979 годзе.

1957 — У Слоніме нарадзіўся Уладзімір Раманоўскі, беларускі спартсмен, алімпійскі чэмпіён 1976 года ў веславанні на байдарках.

**22 ліпеня**

1944 — У Слоніме пачала працаваць гандлёвая сетка (цяпер гандлёвае прадпрыемства «Світанак»).



**23 ліпеня**

1906 — У вёсцы Мяльканавічы нарадзіўся Антон Валынчык, беларускі хормайстар, кампазітар, педагог.

1923 — У вёсцы Акунінава нарадзіўся Алесь Бута, беларускі дзеяч у эміграцыі. Памёр у жніўні 1998 года.

1927 — У вёсцы Вялікая Кракотка гуртком ТБШ пастаўлена камедыя Янкі Купалы «Паўлінка».

**24 ліпеня**

1920 — У Слоніме нарадзіўся Іосіф Юдзелевіч, доктар хімічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі СССР.

1924 — Альбярцін атрымаў статус першага ў Беларусі прыходу грэка-каталіцкага абраду.

**25 ліпеня**

1609 — Жыровіцкі святар Рыгор Сула падпісаў загад аб падпарадкаванні ўніяцкаму мітрапаліту Пацею. З таго часу Жыровіцкі праваслаўны манастыр далучыўся да уніі.

1899 — У вёсцы Сасноўка нарадзіўся Барыс Пішчыкевіч, вайсковец, Герой Савецкага Саюза.

1997 — У ЗША памерла Наталля Арсеннева, беларуская паэтка, дзяячка беларускай эміграцыі (ЗША). У 1922–1924 гадах жыла ў Слоніме.

2012 — У Гродне памерла Тамара Талерчык, беларуская настаўніца, актывістка ТБМ. Пахавана на могілках Аульса ў Гродне.

**26 ліпеня**

1978 — Памёр Аляксей Васіленя, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, у Другую сусветную вайну — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Пахаваны на могілках Роквуд у Сыднеі.

**27 ліпеня**

1944 — Прысваенне 11 часцям і злучэнням Першага Беларускага фронту, якія вызначыліся пры вызваленні Слоніма ад немцаў, найменне «Слонімскіх».

1988 — Памёр Серафім Татарын, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ. Нараджэнец вёскі Вострава (Зэльвенскі раён), дзейнасць была звязана і са Слонімшчынай.

1990 — Вярхоўным Саветам прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

1996 — У Слоніме адбыўся БССР гарадскі мітынг, дзе мітынгоўцы прынялі рэзалюцыю наконт спынення пераследу незалежнай прэсы і дэмакратычных палітыкаў, патрабавалі падвышэння пенсій і забеспячэння працай беспрацоўных.

**28 ліпеня**

1860 — У Гродне выйшла з друку праца Я. Радзішэўскага «Гістарычнае апісанне горада Слоніма».

**29 ліпеня**

1960 — Памёр Тодар Данілюк, беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч, адзін з стваральнікаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, з 1950 года жыў у ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку. Нараджэнец вёскі Сурынка.

1991 — Памёр схіархімандрыт Іаан (Маслаў), духоўнік Жыровіцкай абіцелі (з 1985 да 1991 г.), магістр багаслоўя.

**30 ліпеня**

1942 — Да 19 ліпеня ў Слоніме немцы знішчылі каля 9 тысяч яўрэяў.

**31 ліпеня**

2012 — У Мінску памёр Янка Саламевіч, беларускі літаратуразнавец, фалькларыст, бібліёграф. Нараджэнец вёскі Малая Кракотка.





• *Антон Карніцкі*



• *Уладзімір Сакалоўскі*



• *Павел Лойка*



• *Алена Лябецкая*



• *Андрэй Пракапчук*



• *Уладзімір Раманоўскі*



• *Гальяш Леўчык*



• *Наталля Арсеннева*





• *Янка Купала*



• *Антон Валынчык*



• *Грэка-каталікі ў Альбярціне. У трэцім радзе другі справа Антон Неманцэвіч, 1935 г.*

# Жнівень

**1 жніўня**

1520 — У Кракаве нарадзіўся Жыгімонт II Аўгуст, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1548–1572 гадах, фармальна з 1529 года.

1914 — Пачалася Першая сусветная вайна.

1944 — У Слоніме, Міжэвічах і Жыровічах пачалі працаваць масла-заводы. Адной з праблем была адсутнасць тары.

2004 — У Вілейцы памёр Уладзімір Весялуха, беларускі паэт і педагог. Нарадзіўся ў вёсцы Новадзявяткавічы.

**2 жніўня**

1794 — Пад Слонімам адбылася бітва паміж корпусам Караля Серакоўскага і расійскім войскам.

1833 — У Гродне каля Скідзельскай заставы (раён сённяшняга аўтавакзала) павешаны Міхал Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызвольнага руху, удзельнік паўстання 1830–1831 гадоў. Нараджэнец вёскі Парэчча.

**3 жніўня**

1470 — Заснаваны Жыровіцкі манастыр.

1939 — Ксёндз Адам Станкевіч упершыню наведаў Жыровічы і ўпаў на калені перад абразом Маці Божай Жыровіцкай.

**4 жніўня**

1917 — У Адэсе нарадзіўся Янка Брыль, народны пісьменнік Беларусі. Шмат разоў бываў на Слонімшчыне, сябраваў са слонімскімі літаратарамі.

**5 жніўня**

1392 — Падпісана Востраўскае пагадненне паміж Ягайлам і Вітаўтам, паводле якога ўлада ў Вялікім Княстве Літоўскім перадавалася Вітаўту.

1461 — У Кракаве нарадзіўся Аляксандр, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага ў 1492–1506 гадах.

1938 — У Курапатах пад Мінскам расстраляны Мітрафан Тамільчык, беларускі фізік, выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. Нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы ў 1896 годзе.

1947 — У вёсцы Шылавічы нарадзіўся Віталь Скалабан, беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст.

1951 — У Дзярэчыне памёр Антоні Дзічканец, слонімскі дэкан і настаяцель Дзярэчынскага касцёла.

**6 жніўня**

1492 — У Вільні вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр выдаў прывілей, які меў характар феадальнай канстытуцыі і замацоўваў асновы дзяржаўна-грамадскага ладу ў Вялікім Княстве Літоўскім.

1627 — Нарадзіўся Аляксандр Палубінскі, ваенны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, слонімскі падкаморы, ваўкавыскі і слонімскі стараста.

1884 — У мястэчку Жыровічы нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог, перакладчык.

**7 жніўня**

1958 — У Слоніме створаны Слонімскі міжкалгасбуд (МПМК-163).

1994 — У Слоніме на скрыжаванні вуліц Брэсцкай і Шашэйнай на месцы былых яўрэйскіх могілак адкрылі мемарыял у памяць пра ўсіх памерлых і загінулых на Слонімшчыне яўрэяў.

1995 — У Мінску памёр Максім Танк (Яўген Скурко), беларускі грамадскі дзеяч, паэт, удзельнік заходнебеларускага руху. Пахаваны ў в. Пількаўшчына (Мядзельскі раён). Шмат разоў бываў на Слонімшчыне, сябраваў з Анатолем Іверсам, Мікалаем Бурсевічам, Валянцінам Таўлаем.

**8 жніўня**

1898 — Выйшла з друку кніга І. Раманоўскага «Мінулае з жыцця горада Слоніма».

1977 — У Парыжы памёр Леў Гарошка, асветнік, уніяцкі рэлігійны дзеяч, гісторык, выдавец, пісьменнік, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Францыя, Вялікабрытанія, Ватыкан). Пахаваны на могілках Сэн-Панкрас у Лондане. Служыў святаром у Жыровічах.

**9 жніўня**

1890 — У вёсцы Чамяры нарадзіўся Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст Грамады, педагог, публіцыст.

1910 — У маёнтку Жлобаўцы (Ваўкавыскі раён) нарадзілася Ларыса Геніюш (дзявочае Міклашэвіч), беларуская паэтка, вязень ГУЛАГа. Любіла і часта бывала ў Жыровічах, на Слонімшчыне жылі яе сваякі.

**10 жніўня**

1958 — У Мінску выйшаў з друку першы зборнік вершаў слонімскага паэта Міколы Арочкі «Не ўсе лугі пакошаны…».

**11 жніўня**

1838 — З 11 жніўня па 8 лістапада праведзена рэвізія жыхароў грэка-ўніяцкага веравызнання па паветах і губернях. Уніяцкага насельніцтва ў Слонімскім павеце налічвалася 62 809 чалавек. Усяго ў Слонімскім павеце пражывала 100 347 чалавек.

**12 жніўня**

1877 — У вёсцы Сурынка нарадзіўся Тодар Данілюк, беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання, адзін са стваральнікаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, з 1950 года жыў у ЗША.

1948 — У Чэхаславаччыне савецкімі карнымі органамі арыштаваныя Янка і Ларыса Геніюшы, пазней засуджаныя да 25 гадоў савецкага канцлагера.

1948 — У Слоніме арганізавана кааператыўная вытворчая арцель «Чырвоны харчавік» (цяпер вінаробчы завод).



**13 жніўня**

1956 — У Мінску памёр Якуб Колас, народны пісьменнік Беларусі. Яго імем названа Слонімская раённая бібліятэка і адна з вуліц Слоніма.

1942 — У Дахау ў канцлагеры памёр Міхал Маліноўскі, міністр усходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1930-х гадах.

**14 жніўня**

1385 — Падпісана Крэўская унія — дамова аб звязе ВКЛ і Польскага каралеўства.

1993 — У Дзярэчыне біскупам Аляксандрам Кашкевічам урачыста асвечаны касцёл.

**15 жніўня**

1721 — Памёр Крыштап Станіслаў Завіша, пісьменнік-мемуарыст, перакладчык, аратар, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

1935 — У вёсцы Пятралевічы нарадзілася Тамара Талерчык, беларуская настаўніца, актывістка ТБМ.

1954 — У мястэчку Падсвілле памёр (паводле іншых звестак, 15 верасня) Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Вандраваў па Гродзеншчыне, пэўны час працаваў у Навагрудку. Пахаваны на могілках паміж вёскамі Ліпляны і Малыя Давыдкі (Глыбоцкі раён). Бываў на Слонімшчыне, сустракаўся з Гальяшам Леўчыкам.

**16 жніўня**

1912 — У Вільні выйшаў зборнік вершаў слонімскага паэта Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі».

**17 жніўня**

1895 — Слонімская гарадская дума прыняла пастанову аб зацвярджэнні кантракта на будаўніцтва ў Слоніме вадавода.

1949 — У вёсцы Пустаборы (Зэльвенскі раён) нарадзіўся Іван Сяргейчык, беларускі празаік, паэт, вайсковец. Жыў і памёр у Слоніме.

**18 жніўня**

1866 — Касцёл у Дзярэчыне знішчаны пажарам, вялікі алтар згарэў дашчэнту, а астатнія былі моцна пашкоджаны.

**19 жніўня**

1506 — Памёр Аляксандр Ягелончык, вялікі князь ВКЛ у 1492–1506 гадах. Пахаваны ў Вільні.

1848 — У Вільні памёр Міхал Палінскі-Пёлка, педагог, матэматык. Нараджэнец Слонімшчыны.

**20 жніўня**

1942 — Фашыстамі было расстраляна 400 слонімскіх яўрэяў у адзін дзень.

2011 — У Мінску памёр Віталь Скалабан, беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст. Нараджэнец вёскі Шылавічы.

**21 жніўня**

2006 — У Мінску памёр Іван Чыгрын, беларускі літаратуразнавец, паэт, крытык. Нараджэнец вёскі Чамяры. Пахаваны ў Мінску.

**22 жніўня**

1616 — У Жыровічах у дзень асвячэння Успенскага сабора канцлер ВКЛ Леў Сапега падарыў манастыру «Евангелле».

1916 — У Слоніме нарадзіўся Аляксандр Вайсенберг, фізік-эксперыментатар, спецыяліст у галіне ядзернай фізікі і фізікі элементарных часціц.

1941 — Гітлераўцы расстралялі 143 жыхароў вёскі Заводны Лес. У 1967 годзе на магіле пастаўлены абеліск.

1978 — У Мінску памёр Піліп Пестрак, беларускі літаратар, актывіст КПЗБ. Пахаваны на мінскіх Усходніх могілках. У 1927–1929 гадах жыў і працаваў у Слоніме.



**23 жніўня**

1907 — Адчынена Слонімская рэальная вучэльня, агульнаадукацыйная сярэдняя навучальная ўстанова ў складзе Віленскай навучальнай акругі.

1973 — У Рыме памёр Стэфан Сакач, прафесар аскетычнага і містычнага багаслоўя, майстар навіцыята ў Альбярціне ў 1933–1935 гадах.

**24 жніўня**

1876 — Нарадзіўся Хрыстафор Бойе-ав-Генэс, які з красавіка 1914 года выконваў абавязкі слонімскага павятовага маршалка.

**25 жніўня**

1953 — У Слоніме нарадзіўся Леанід Богдан, мастак і скульптар. Жыў і загінуў у Слоніме.

1991 — Вярхоўны Савет БССР надаў «Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР» канстытуцыйны статус і прыпыніў дзейнасць КПБ.

**26 жніўня**

1994 — У Мінску памёр Сяргей Новік-Пяюн, беларускі паэт і пісьменнік. Пахаваны ў вёсцы Лявонавічы (Нясвіжскі раён). У 1931–1945 гадах жыў і працаваў у Слоніме.

**27 жніўня**

1906 — У вёсцы Лявонавічы (Нясвіжскі раён) нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн, беларускі паэт і пісьменнік. У 1931–1945 гадах жыў і працаваў у Слоніме.

1993 — У вёсцы Азярніца памёр Алесь Сучок (сапраўднае Пятро Дабрыян), беларускі паэт, актыўны змагар за адкрыццё беларускіх школ на Слонімшчыне. Жыў таксама ў Мяльканавічах, Слоніме, Какошычах. Пахаваны ў Азярніцы.

**28 жніўня**

1772 — Нарадзіўся Францішак Сапега, генерал, удзельнік паўстання 1794 года, яго кіраўнік у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах, трымаў у Дзярэчыне тэатр.

1802 — Слонімскі павет далучаны да Гродзенскай губерні.

**29 жніўня**

1959 — У Мінску выйшаў з друку першы зборнік вершаў Алега Лойкі «На юначым шляху».

**30 жніўня**

1855 — Памёр Юльян Корсак, польскі паэт, перакладчык. Нараджэнец Слоніма.

1915 — У вёсцы Глоўсевічы нарадзіўся Іван Хомчык, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне ў 1946–1947 гадах.

1966 — У вёсцы Голі нарадзіўся Анатоль Скок, воін-інтэрнацыяналіст, загінуў у Афганістане ў 1986 годзе.

1986 — У Зэльве памёр Павел Жданаў, вайсковец, Герой Савецкага Саюза. Нарадзіўся ў Слоніме.

**31 жніўня**

1911 — У вёсцы Мялькanaвічы нарадзіўся Уладзімір Бялько, рэдактар газеты «Піянер», грамадскі дзеяч і актывіст.



- *Віталь Скалабан*



- *Максім Танк*





- *Францішак Сапега*



- *Леанід Богдан*



- *Максім Бурсевіч, 1926 г.*



- *Сяргей Новік-Пяюн*



• *Янка Брыль*



• *Тодар Данілюк*



• *Ларыса і Янка Геніюшы, 1970-я гг.*




• *Першы зборнік вершаў Міколы Арочкі, 1958 г.*

# Верасень

**1 верасня**

1431 — Падпісана перамір'е ВКЛ з Польшчай, паводле якога Польшча прызнала Свідрыгайлу вялікім князем і ўладаром усіх зямель ВКЛ.

1853 — У Варшаве нарадзіўся Міхал Федароўскі, польскі і беларускі этнограф, фальклярыст, археолаг, які 9 гадоў жыў і збіраў фальклор у Слонімскім павеце. Сябраваў са слонімскім паэтам Гальяшам Леўчыкам.

1893 — У вёсцы Багданавічы нарадзіўся Уладзіслаў Корчыц, савецкі военачальнік, генерал-палкоўнік.

1939 — Пачалася Другая сусветная вайна, беларусы з Заходняй Беларусі былі ў складзе польскага войска.

1960 — У Міжэвічах быў здадзены ў эксплуатацыю новы будынак сярэдняй школы.

**2 верасня**

1804 — У Слоніме нарадзіўся Аўраам Вайнберг, пачынальнік хасідскай дынастыі цадзікаў.

**3 верасня**

1894 — У Жыровічах нарадзіўся Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік беларускага грамадска-літаратурнага руху пачатку XX стагоддзя. Загінуў у Расіі.

**4 верасня**

1992 — У Таронта памёр Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сіняк), беларускі пісьменнік, паэт, журналіст, выдавец, з 1944 года жыў у эміграцыі (Германія, Канада). Нараджэнец вёскі Казлоўшчына (Дзятлаўскі раён). Жыў таксама ў Слоніме.

**5 верасня**

2004 — У Мінску памёр Васіль Мялешка, доктар гістарычных навук. Маленства і школьныя гады прайшлі ў вёсцы Мяльканавічы.

**6 верасня**

Дзень памяці Серафіма Жыровіцкага.

1764 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

**7 верасня**

1876 — Інжынер Кржыжаноўскі падрыхтаваў новы праектны план Слоніма, які быў зацверджаны ў 1877 годзе.

**8 верасня**

1514 — Адбылася бітва пад Оршай. Разгром войскамі ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім маскоўскага войска. Дзень беларускай вайсковай славы.

1935 — Адбыліся выбары ў польскі сойм. У выніку байкоту Слонімскай акруговай арганізацыі КПЗБ на ўчасткі прыйшло менш за палову выбаршчыкаў.

**9 верасня**

Сусветны дзень аказання першай медыцынскай дапамогі .

**10 верасня**

1901 — У Слоніме на гэты час працавалі 29 фабрык і заводаў.

**11 верасня**

1790 — У Слоніме нарадзіўся Вацлаў Пелікан, навуковец, рэктар Віленскага ўніверсітэта, прафесар-хірург.

**12 верасня**

1939 — У Вільні выйшла з друку кніга паэта з вёскі Чамяры Анатоля Іверса (сапраўднае Івана Міско) «Песні на загонах».



**13 верасня**

1784 — У Слоніме ў тэатры Агінскага пастаўлена п’еса «Дэзерцір» П’ера Мансіны, прымеркавана да візіту караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

1916 — Вялікі пажар у Слоніме знішчыў палову гандлёвых радоў у цэнтры Слоніма (цяпер гэта вуліца Першамайская).

**14 верасня**

1975 — Памёр Міхаіл Фрыдман, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, рэжысёр Слонімскага народнага тэатра.

**15 верасня**

1907 — У Брэсце нарадзіўся Барыс Суравы (памёр у снежні 1998 года), беларускі грамадскі дзеяч, эмігрант (Вялікабрытанія). У час Другой сусветнай вайны быў школьным інспектарам, кіраўніком СБМ па Слонімскай акрузе.

1913 — Нарадзіўся Рыгор Зыбайла, беларускі палітычны і вайсковы дзеяч, старшыня Слонімскай акруговай Беларускай народнай самапомачы ў 1941–1942 гадах.

1997 — Памёр Рудольф Пастухоў, беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Жыў у Слоніме.

**16 верасня**

1668 — Кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь ВКЛ Ян Казімір адрокся ад трона.

1913 — У Слоніме нарадзіўся Навум Альперт, графік і жывапісец. Памёр у эміграцыі.

**17 верасня**

1846 — У Слоніме нарадзіўся Генрык Татур, археолаг і краязнавец. Памёр у 1907 годзе.

1860 — У вёсцы Збочна нарадзіўся Кандрат Лейка, беларускі пісьменнік, драматург, педагог.

1898 — У вёсцы Едначы нарадзіўся Павел Крынчык, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, актывіст ТБШ.

1939 — Савецкія войскі перайшлі мяжу з Польшчай і да 25 верасня занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі разам з Вільняй і Беластокам. Адбылося далучэнне Заходняй Беларусі да БССР.

**18 верасня**

1844 — Да абавязкаў святара Дзераўноўскай царквы прыступіў Фердынанд Гаворскі.

1929 — Візіт у Слонім прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага.

1998 — У Мінску памёр Віктар Шымук, беларускі пісьменнік, перакладчык. Нараджэнец вёскі Змяёўцы (Дзятлаўскі раён). Пахаваны ў Дзятлаве. Шмат вершаў прысвяціў Слонімшчыне.

**19 верасня**

1730 — Каранацыя залатымі папскімі каронамі Жыровіцкага цудатворнага абраза Маці Божай і Ісуса. Карону, упрыгожаную каштоўнымі камянямі, ахвяравала княгіня Ганна Радзівіл.

1921 — У горадзе Здалбунаў (Ровенская вобласць, Украіна) памёр Кандрат Лейка, беларускі пісьменнік, драматург, педагог. Нараджэнец вёскі Збочна.

1939 — У Слоніме створана часовае павятовае савецкае ўпраўленне.

1991 — Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб змене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам зацверджана «Пагоня», Дзяржаўным сцягам — бела-чырвона-белы сцяг.

**20 верасня**

1867 — Пабудавана Парэцкая царква. Зачынена бальшавікамі ў 1960-я гады, саветы размясцілі ў ёй калгасны склад, а потым спалілі. Цяпер адноўлена.

1903 — У Баку нарадзілася Наталля Арсеннева, беларуская паэтка, дзеячка беларускай эміграцыі (ЗША). У 1922–1924 гадах жыла ў Слоніме.

1929 — У Слоніме ўрачыста адкрыты краязнаўчы музей, заснаваны на базе калекцыі Язэпа Стаброўскага.



1957 — У вёсцы Вяценеўка нарадзіўся Анатоль Супрун, воін-інтэрнацыяналіст, загінуў у Афганістане ў 1983 годзе.

1944 — Утворана Гродзенская вобласць.

**21 верасня**

1999 — Упершыню ў Слоніме сябры грамадскага аб’яднання «Ветразь» супольна з ТБМ правялі конкурс сачыненняў і вершаў для моладзі Слонімшчыны.

2001 — У Дзярэчыне адбыліся ўрачыстасці з нагоды пабудовы касцёла (1913) і 10-годдзя заканчэння яго аднаўлення (1993).

**22 верасня**

1806 — У Песках ахрышчаны Францішак Ксаверы Пуслоўскі, у 1830-я гады — маршалак Слонімскага павета.

1880 — Памёр Уладзіслаў Сымановіч (нарадзіўся каля 1831 года ў Вільні), беларускі лекар, удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў на Слонімшчыне.

1942 — Гітлераўцы расстралялі 19 жыхароў вёскі Баравікі.

1975 — Памёр Павал Крынчык, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, актывіст ТБШ. Нараджэнец вёскі Едначы.

**23 верасня**

1771 — У ноч на 23 верасня пад Сталовічамі (цяпер Баранавіцкі раён) трохтысячнае войска Міхала Казіміра Агінскага пацярпела паразу ад расійскіх войск Суворава.

**24 верасня**

1910 — У Слоніме заснавана жаночая гімназія. Падпарадкоўвалася Віленскай навучальнай акрузе.

**25 верасня**

1784 — У Слоніме нарадзіўся польскі філантроп, журналіст і педагог Міхаіл Канарскі.

1914 — Нарадзіўся Яўген Смаршчок, беларускі і бельгійскі педагог, праваслаўны духоўны святар у эміграцыі, доктар педагогікі, прафесар. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Слоніме.

**26 верасня**

1924 — У Альбярціне пад Слонімам айцы езуіты заснавалі Усходнюю грэка-каталіцкую місію з навіцыятам.

1936 — Нарадзіўся Рудольф Пастухоў, слонімскі грамадска-палітычны дзеяч, паэт. Пры жыцці выдаў паэтычны зборнік «Судьба» (Слонім, 2005). Пахаваны ў вёсцы Заверша.

1938 — У Кіеве расстраляны Леў Мышкоўскі, пісьменнік, журналіст, перакладчык. Нарадзіўся ў Слоніме ў 1883 годзе.

1939 — Выйшаў з друку першы нумар раённай газеты «Вольная праца».

**27 верасня**

Сусветны дзень турызму.

1911 — У вёсцы Клівы (Хойніцкі раён) нарадзіўся Іосіф Чарняўскі, першы рэдактар слонімскай раённай газеты «Вольная праца» (цяпер — «Слонімскі веснік»).

1920 — Слонім занялі польскія войскі (горад быў пад польскай уладай да 17 верасня 1939 года).

**28 верасня**

1989 — У Жыровічах аднавіла дзейнасць Мінская праваслаўная духоўная семінарыя.

**29 верасня**

1529 — Пачаў дзеіць I Статут ВКЛ.

1929 — Нарадзілася Зарэма Трафімовіч, слонімская паэтка і педагог. Выдала некалькі зборнікаў вершаў. Памерла ў Слоніме.

2007 — У Сынковічах (Зэльвенскі раён) да 600-годдзя Сынковіцкай царквы адбыўся першы Дзень хрысціянскай паэзіі, у якім прынялі ўдзел і слонімскія літаратары.



**30 верасня**

1895 — Нарадзіўся архімандрыт Ігнацій (Рыгор Кударэнка), царкоўны дзеяч, шмат гадоў жыў і служыў у Жыровіцкім манастыры.

1944 — У складзеным у гэты дзень акце Слонімскага раённага краязнаўчага музея пералічаны разрабаваныя ў час Другой сусветнай вайны слонімскія каштоўнасці.

2015 — У Саўт-Рыверы (ЗША) памёр Мікалай Касцюк, беларускі грамадскі дзеяч у эміграцыі. Нарадзіўся ў вёсцы Жыровічы.



• *Вацлаў Пелікан*



• *Рыгор Зыбайла, 1943 г.*



• *Павел Крынчык*



• *Рудольф Пастухоў*



• *Уладзіслаў Корчыц*



• *Іосіф Чарняўскі, 1939 г.*



• *Кандрат Лейка*



• *Помнік Тадэвушу Касцюшку ў Марачоўшчыне*

# Кастрычнік

**1 кастрычніка**

1940 — У савецкім канцлагеры (Комі АССР) загінуў Сямён Жыткевіч (нарадзіўся ў 1893 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ.

**2 кастрычніка**

1413 — Заключана Гарадзельская унія ВКЛ з Польшчай, якая надала беларуска-летувіскай шляхце палітычныя правы.

1942 — У Слоніме аднавіў працу музей Язэпа Стаброўскага.

2014 — У Жыровічах адзначылі 25-годдзе адраджэння Мінскай духоўнай семінарыі.

**3 кастрычніка**

1848 — У мястэчку Шарашова (Пружанскі раён) памёр Міхал Бабро-ўскі, беларускі вучоны-славіст. У 1824–1826 гадах працаваў у Жыровічах.

**4 кастрычніка**

1582 — У Рэчы Паспалітай прывілеем Стэфана Баторыя ўведзены грыгарыянскі каляндар, пасля 4-га наступіла 15 кастрычніка.

1984 — У мясцовасці Грэвер недалёка ад Лювена (Бельгія) памёр Яўген Смаршчок, беларускі і бельгійскі педагог, праваслаўны духоўнік. Пахаваны ў Бельгіі. Нараджэнец Зэльвы.

2016 — У Слоніме памёр Іван Шэга, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, доктар.

**5 кастрычніка**

1763 — Памёр Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай вялікі князь ВКЛ у 1733–1766 гадах.

**6 кастрычніка**
Дзень архівіста.

**7 кастрычніка**
1886 — Праз Слонім прайшла лінія чыгункі Баранавічы–Беласток.

**8 кастрычніка**
1916 — У Адэсе памёр Хаім Скідзельскі, вядомы прамысловец і мецэнат. Нарадзіўся ў Слоніме ў 1845 годзе.

**9 кастрычніка**
1596 — Абвешчана Брэсцкая царкоўная унія, згодна з умовамі якой стваралася новая царква — уніяцкая. Шэсць цэркваў Слоніма пасля забароны праваслаўя становяцца ўніяцкімі.

**10 кастрычніка**
1921 — Нарадзіўся Міхаіл Гарабец, слонімскі кампазітар, музыкант, паэт, мастак, аўтар шматлікіх песень пра Слонім. Жыў і памёр у Слоніме.
1934 — У вёсцы Радзялавічы (Ганцавіцкі раён) нарадзіўся Мікалай Варвашэвіч, беларускі тэатральны рэжысёр, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Жыў і памёр у Слоніме. Пахаваны ў Свіслачы.

**11 кастрычніка**
1760 — У Слоніме памёр Міхал Антоні Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, перакладчык, літаратар.
1942 — У Слоніме, пасля рэарганізацыі, адбылося ўрачыстае адкрыццё краязнаўчага музея.

**12 кастрычніка**
1398 — На востраве Салін (на Нёмане) падпісана мірная дамова пра дапамогу паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам.
1940 — Слонімскі раён падзелены на 14 сельсаветаў.
1943 — Выйшаў першы нумар аднаўленай партызанамі слонімскай газеты «Вольная праца».



**13 кастрычніка**
1888 — У засценку Пунькі (Глыбоцкі раён) нарадзіўся Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Працаваў настаўнікам у Навагрудку, бываў у Слоніме.

**14 кастрычніка**
1904 — У вёсцы Харашэвічы нарадзіўся Васіль Качарга, Герой Сацыялістычнай Працы.

**15 кастрычніка**
1817 — У Швейцарыі памёр Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, нацыянальны герой Беларусі.
1940 — Па пастанове Баранавіцкага аблвыканкама 48 найкаштоўнейшых экспанатаў Слонімскага музея былі перададзены ў Баранавіцкі музей мастацтва.

**16 кастрычніка**
1813 — Адбылася бітва пад Ляйпцыгам, дзе на баку напалеонаўскага войска ваяваў слонімскі генерал Ян Канопка.
1904 — У Слоніме нарадзіўся Максім Левін, антраполаг, этнограф і археолаг, даследчык этнічнай антрапалогіі Сібіры, Далёкага Усходу і Японіі, доктар гістарычных навук, прафесар.
1905 — Нарадзіўся Міхаіл Анішчык, ганаровы грамадзянін Слоніма. Памёр 8 лютага 1973 года.

**17 кастрычніка**
1696 — Нарадзіўся Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь ВКЛ у 1733–1766 гадах.
1966 — У Маскве памёр Уладзіслаў Корчыц, генерал-палкоўнік. Нараджэнец вёскі Багданавічы.

**18 кастрычніка**
1596 — У Брэсце падпісана царкоўная унія.

1931 — У вёсцы Чапялёва ўрачыста адкрыты беларускі Народны дом. Будынак асвячаў праваслаўны святар Фёдар Комар з Шылавічаў. Агулам на мерапрыемстве прысутнічала 500 чалавек.

1960 — У Марыупалі (Украіна) памёр Янка Бялькевіч, беларускі мовазнавец і педагог. Нараджэнец вёскі Варонічы.

2002 — Унітарнае прадпрыемства «Газета Слонімская» заснавала і выдала яшчэ адну газету «Отдушина».

**19 кастрычніка**

1926 — У Слоніме нарадзіўся Станіслаў Гаргалеўскі, вядомы польскі фізік і астраном, «бацька польскай радыёастраноміі». Памёр у 2011 годзе ў Торуні.

1988 — У Мінску ўтвораныя рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі» і аргкамітэт Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

**20 кастрычніка**

1506 — На княжанне ў ВКЛ абраны Жыгімонт І Стары.

1812 — У час французка-расійскай вайны ў Слоніме адбыўся вялікі бой.

1916 — У вёсцы Ахматава (Алатырскі раён, Чувашыя) нарадзіўся Алесь Сучок (сапраўднае Пятро Дабрыян) беларускі паэт, актыўны змагар за адкрыццё беларускіх школ на Слонімшчыне. Жыў таксама ў Мялькanaвічах, Слоніме, Какошчычах. Пахаваны ў Азярніцы.

1943 — Непадалёк ад Альбярціна савецкімі партызанамі забіты святар Антоні Гжыбоўскі.

1953 — У Маскве памёр Яўген Хлябцэвіч, беларускі бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог. Нарадзіўся ў вёсцы Жыровічы.

**21 кастрычніка**

1867 — Нарадзіўся мітрапаліт Панцеляймон (Павел Ражноўскі), які з 1930 да 1941 года жыў у Жыровічах.

1935 — У Зэльве нарадзіўся Юрка Геніюш, беларускі пісьменнік і публіцыст. З маці, паэткай Ларысай Геніюш, шмат разоў бываў на Слонімшчыне.



**22 кастрычніка**

1882 — У засценку Акінчыцы (Стаўбцоўскі раён) нарадзіўся Якуб Колас, народны пісьменнік Беларусі. Імя Якуба Коласа носіць Слонімская раённая бібліятэка і вуліца ў Слоніме.

1941 — На тэрыторыі Беларусі створана Беларуская народная самапомач.

1953 — Заснавальнік Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея Георгій Пех атрымаў адкрыты ліст на правядзенне раскопак на слонімскім Замчышчы і кургана ў вёсцы Васілевічы. Падчас шурфоўкі ў Слоніме была выяўлена вялікая колькасць керамікі, тыповай для гарадоў Панямоння XII–XIII стагоддзяў. Але сапраўдныя раскопкі тут былі праведзеныя толькі ў чэрвені–ліпені 1959 года, па выніках якіх была зроблена выснова: «Сумненняў у тым, дзе размяшчаўся летапісны Слонім, быць не магло».

2010 — У Мінску ў шпіталі памёр Павел Лойка, беларускі гісторык. Нараджэнец Слоніма.

**23 кастрычніка**

1928 — У вёсцы Хадзявічы нарадзіўся Лаўрэн Клыбік, дзеяч беларускай эміграцыі (Англія, Бельгія), медык, навуковец-фармацэўт.

1981 — У Мінску памёр Якуб Міско, беларускі пісьменнік, журналіст. Пахаваны на мінскіх Паўночных могілках. Нараджэнец вёскі Чамяры.

**24 кастрычніка**

1795 — Адбыўся ІІІ падзел Рэчы Паспалітай.

**25 кастрычніка**

1589 — Нарадзіўся Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

1923 — У вёсцы Збочна нарадзіўся Аўген Якубовіч, беларускі рэлігійны дзеяч у эміграцыі. Памёр і пахаваны ў Лондане.

**26 кастрычніка**

1985 — У Слонімскай сярэдняй школе № 2 адкрыўся мемарыяльны музей.

1999 — Памёр Анатоль Іверс (сапраўднае Іван Міско), беларускі паэт, публіцыст, журналіст. Нараджэнец вёскі Чамяры. Пахаваны ў Слоніме.

**27 кастрычніка**

1430 — Памёр вялікі князь Вітаўт (нарадзіўся ў 1350 годзе).

**28 кастрычніка**

1974 — Памёр Рыгор Акулевіч, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Грамады і ТБШ, дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Нараджэнец вёскі Вялікая Кракотка.

**29 кастрычніка**

1937 — У Мінску НКВД цягам ночы расстраляныя 22 беларускія і яўрэйскія пісьменнікі, шэраг навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў. Сярод забітых быў Хацкель Дунец, нараджэнец Слоніма.

1938 — У вёсцы Малая Кракотка нарадзіўся Янка Саламевіч, беларускі літаратуразнавец, фалькларыст, бібліёграф, энцыклапедыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

**30 кастрычніка**

1957 — Нарадзіўся Іван Ясюкевіч, вайсковец, старшы лейтэнант, які загінуў у Афганістане. Пахаваны ў Слоніме.

**31 кастрычніка**

2016 — У Слоніме на Опернай вуліцы ўстаноўлены валун, на якім выбіты тэкст: «Замчышча. XI–XVIII стст.». Працу выканаў слонімскі скульптар Леанід Богдан.





• *Мікалай Варвашэвіч*



• *Алесь Сучок у Азярніцы, 1980-я гады*



• *Вітаўт*



• *Хацкель Дунец*



• *Якуб Колас*



• *Мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі)*



• *Язэп Драздовіч*



• *Янка Саламевіч*



• *Георгі Пех*

# Лістапад

**1 лістапада**

У лацінскім абрадзе свята Усіх Святых.

2001 — У Слоніме памёр Мікалай Варвашэвіч, беларускі тэатральны рэжысёр, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Пахаваны ў Свіслачы.

**2 лістапада**

Дзяды, дзень памінання памерлых.

1869 — У Слоніме нарадзіўся Язэп Стаброўскі, археолаг, краязнавец, музеязнавец, калекцыянер, заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея.

**3 лістапада**

1679 — Памёр Аляксандр Палубінскі, ваенны дзеяч ВКЛ, слонімскі падкаморы, ваўкавыскі і слонімскі староста.

1890 — У Слоніме нарадзіўся Канстанцін Пушкарэвіч, беларускі і расійскі славіст, літаратуразнавец, педагог.

1906 — У Слоніме створана жаночая прыватная яўрэйская прагімназія Хаі Орман-Юдкоўскай.

1937 — На Салавецкіх астравах НКУС расстраляны Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст Грамады. Нараджэнец вёскі Чамяры.

**4 лістапада**

1904 — Нарадзіўся Вальтар Цішак, місіянер усходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1930-х гадах.

2000 — У вёсцы Парэчча ўсталяваны памятны крыж у гонар паўстанца 1830–1831 гадоў Міхала Валовіча і яго паплечнікаў.

**5 лістапада**

1922 — Адбыліся першыя выбары ў польскі сойм, у які беларусы правялі 14 сваіх прадстаўнікоў.

**6 лістапада**

1911 — У Слонімскім павеце прызямліўся паветраны шар, які стартаваў у Парыжы. Як пісала газета «Новое время», слонімцаў вітаў сябра парыжскага аэраклуба Жуль Дзюбуа.

1912 — На Навагрудчыне нарадзіўся Віктар Войтанка (у эміграцыі Віктар Васілеўскі), дзеяч самакіравання, БКА, у 1943 годзе працаваў лекарам у Слоніме, медык, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**7 лістапада**

1862 — Нарадзіўся Міхаіл Расійскі, генерал-маёр 118-га Шуйскага палка. Памёр і пахаваны ў Слоніме на Ружанскіх могілках.

1988 — Пры Слонімскім РДК створаны хор ветэранаў вайны і працы «Памяць» (кіраўнік Аляксандр Клябанаў).

**8 лістапада**

1632 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Уладзіслаў Ваза (кіраваў да 20 траўня 1648 года).

1973 — Памёр Аляксандр Жукоўскі, удзельнік слонімскай падпольнай патрыятычнай арганізацыі «Чайка», вязень савецкіх турмаў і канцлагера. Пахаваны ў вёсцы Залессе.

**9 лістапада**

Міжнародны дзень супраць фашызму, расізму і антысемітызму.

**10 лістапада**

1946 — На Слонімшчыне пачалася «ўдарная пацідзёнка» па здачы збожжа дзяржаве. Але многія вяскоўцы Слонімскага раёна стараліся сабатаваць мерапрыемства савецкай улады.



**11 лістапада**

1904 — Нарадзіўся Антон Гжыбоўскі, неаўніяцкі святар у Альбярціне.

1962 — У вёсцы Засімавічы нарадзіўся Мікалай Кузьміцкі, воін-інтэрнацыяналіст, загінуў у Афганістане ў 1982 годзе.

**12 лістапада**

1904 — Нарадзіўся Станіслаў Ласкі, ігумен і майстар навіцыята ўсходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне.

1923 — У вёсцы Сурынка нарадзіўся Янка Пякарскі, беларускі грамадска-царкоўны дзеяч у эміграцыі.

**13 лістапада**

1985 — Памёр Антон Валынчык, беларускі хормайстар, кампазітар, педагог. Нараджэнец вёскі Мяльканавічы. Пахаваны ў Гродне на могілках па праспекце Касманаўтаў.

**14 лістапада**

1939 — Заходняя Беларусь афіцыйна ўключаная ў склад БССР.

1939 — Слонім наведаў народны паэт Беларусі Янка Купала, які сустракаўся са слонімскім паэтам Гальяшам Леўчыкам.

2014 — У Слоніме адкрылі мемарыяльны знак «Герб горада».

2014 — Слонім упершыню сустракаў абласныя «Дажынкі». Да свята адбылася рэканструкцыя плошчы перад райвыканкамам.

**15 лістапада**

1987 — У вёсцы Яглевічы (Івацэвіцкі раён) памёр Рыгор Зыбайла, беларускі палітычна-вайсковы дзеяч, старшыня Слонімскай акруговай Беларускай народнай самапомачы ў 1941–1942 гадах.

**16 лістапада**

Дзень Маці Божай Вастрабрамскай — апякункі Беларусі.

**17 лістапада**

1986 — У межы Слоніма ўключана вёска Цывіншчына Паўлаўскага сельсавета.

**18 лістапада**

1905 — У Слоніме нарадзіўся Хаім Ленскі, яўрэйскі пісьменнік. Загінуў у сталінскіх лагерах у 1943 годзе.

**19 лістапада**

1784 (ці 1785) — У вёсцы Вулька (Бельскі павет, Беласточчына) нарадзіўся Міхал Баброўскі, беларускі вучоны-славіст. У 1824–1826 гадах працаваў у Жыровічах.

1898 — У вёсцы Гавенавічы (Слонімскі павет, цяпер вёска Падгорная, Баранавіцкі раён) нарадзіўся Язэп Вількоўшчык (Іосіф Вількоўскі), беларускі паэт, байкапісец і калекцыянер. Жыў і памёр у Слоніме.

1927 — У вёсцы Ваўчкі нарадзіўся Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падполля 1946–1947 гадоў у Заходняй Беларусі, вязень савецкіх турмаў і канцлагераў.

2008 — У Слоніме памёр Алег Лойка, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык, педагог, доктар філалагічных навук, прафесар. Пахаваны ў Слоніме.

**20 лістапада**

1648 — Каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Ян Казімір (кіраваў да 1668 года).

**21 лістапада**

1555 — Вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам Аўгустам у Слоніме ўведзены земскі суд, які займаўся разбіральніцтвам спраў шляхты.

1869 — У маёнтку Крупляны (Навагрудскі раён) нарадзіўся Казімір Стаброўскі, беларускі і польскі мастак, стрыечны брат Язэпа Стаброўскага.

**22 лістапада**

1761 — Нарадзіўся Міхаіл Лявіцкі, расійскі генерал-маёр. Служыў і жыў у Слоніме. Памёр у 1841 годзе. Пахаваны на Ружанскіх могілках у Слоніме.



**23 лістапада**

1880 — Завершана пракладка шашы Баранавічы–Слонім–Варшава.

**24 лістапада**

2017 — У Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа адкрыты музей-пакой доктара філалагічных навук, прафесара і пісьменніка Алега Лойкі.

**25 лістапада**

Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю гвалту ў адносінах да жанчын.

**26 лістапада**

1930 — У Оршы нарадзіўся Уладзімір Караткевіч, класік беларускай літаратуры. Шмат разоў бываў на Слонімшчыне, сябраваў са слонімскімі літаратарамі, а вёску Вялікая Кракотка называў самай прыгожай вёскай у свеце.

**27 лістапада**

1903 — У вёсцы Сакаўцы (Івацэвіцкі раён) нарадзіўся Піліп Пестрак, беларускі літаратар, дзеяч КПЗБ. У 1927–1929 гадах жыў у Слоніме.

1920 — Пачалося антысавецкае Слуцкае паўстанне (доўжылася да 28 снежня 1920 года). У паўстанні бралі ўдзел і жыхары Слонімшчыны. Нацыянальны Дзень Герояў.

**28 лістапада**

1923 — Створана беларускае літаратурнае аб’яднанне «Маладняк», куды ўваходзіў і слонімскі паэт Сяргей Дарожны.

**29 лістапада**

1826 — У Вільні памёр Вікенці Герберскі, медык і педагог. Нарадзіўся ў Слоніме ў 1784 годзе.

1887 — Нарадзіўся Міхал Маліноўскі, міністр усходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1930-х гадах.

1830 — Пачатак нацыянальна-вызвольнага паўстання.

1949 — У савецкім канцлагеры пад Тайшэтам забіты Адам Станкевіч (паводле іншых звестак, 4 снежня), беларускі рымска-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч, асветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст. Нараджэнец вёскі Арляняты Смаргонскага раёна. Жыў і працаваў у Слоніме ў 1938–1939 гадах.

**30 лістапада**
Міжнародны дзень абароны інфармацыі.



• *Казімір Стаброўскі*



• *Язэп Вількоўшчык*



• *Піліп Пестрак*



• *Уладзімір Караткевіч*

# Снежань

**1 снежня**
1926 — У Слоніме нарадзіўся Збігнеў Хмялеўскі, польскі кінарэжысёр. Памёр у 2009 годзе.
1947 — У вёсцы Шылавічы застрэлена дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Ганна Кароль**.**
2004 — У Мінску памёр Барыс Зяленскі, пісьменнік-фантаст і перакладчык. Нарадзіўся ў Слоніме.

**2 снежня**
Сусветны дзень барацьбы за адмену рабства.

**3 снежня**
1791 — У вёсцы Бялавічы (Івацэвіцкі раён) нарадзіўся Міхал Гамаліцкі, беларускі лекар, педагог, гісторык. Вучыўся ў Жыровічах.

**4 снежня**
1939 — Слонімскі раён увайшоў у склад Баранавіцкай вобласці, створанай пасля ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР.
1980 — У Мінску памерла Вольга Галіна, народная артыстка Беларусі. У спектаклі Слонімскага народнага тэатра «Апошнія» па п’есе Максіма Горкага сыграла ролю Соф’і.

**5 снежня**
1793 — На Гродзенскім сойме прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.

**6 снежня**

1886 — У Слоніме адбылося адкрыццё чыгуначнай станцыі на Баранавіцка-Беластоцкай лініі Палескай чыгункі. Пачаткова станцыя называлася Слонім-Альбярцін, на чым настаяў уладальнік маёнтка Альбярцін Франц Пуслоўскі, які бязвыплатна перадаў зямлю пад будаўніцтва.

1927 — Адноўлена праца фабрыкі «Альбярцін».

1981 — У Маскве памёр Яўген Леашэня, вайсковец, беларускі краязнавец. Нарадзіўся ў Альбярціне. Адна з вуліц Слоніма носіць яго імя.

**7 снежня**

1506 — У Гародні вялікі князь ВКЛ Жыгімонт I Стары выдаў прывілей, які замацоўваў юрыдычныя нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям, валасцям і гарадам ВКЛ.

1894 — У маёнтку Міхалін Чамяроўскай гміны, каля Азярніцы, упаў метэарыт. Доўгі час экспанаваўся ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**8 снежня**

1937 — Супрацоўнікамі НКУС расстраляны Ігнат Дварчанін, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, літаратуразнавец, паэт, педагог. Працаваў настаўнікам у вёсцы Хмяльніца на Слонімшчыне.

1984 — Памёр Вальтар Цішак, місіянер усходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1930-х гадах.

**9 снежня**

1268 — Забіты Войшалк (нарадзіўся ў 1223 годзе), князь навагрудскі, вялікі князь ВКЛ (1263–1267).

1918 — У Слоніме, з дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў, прайшоў з`езд Саветаў. На ім прысутнічалі 36 дэлегатаў.

**10 снежня**

1930 — У вёсцы Вецявічы нарадзіўся Мікола Арочка, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык, доктар філалагічных навук.



**11 снежня**

1991 — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвердзіў Палажэнне аб дзяржаўным (бела-чырвона-белым) сцягу Рэспублікі Беларусь.

**12 снежня**

1586 — У Гродне памёр Стэфан Баторый, вялікі князь ВКЛ, кароль Рэчы Паспалітай. Новым каралём абраны Жыгімонт III Ваза.

1796 — Слонімскі павет далучаны да Літоўскай губерні.

**13 снежня**

1830 — На землях Беларусі ў звязку з паўстаннем абвешчана ваеннае становішча.

1504 — Васіль Глінскі па мянушцы Сляпы атрымаў ад вялікага князя Аляксандра маёнтак Ласасіную ў Слонімскім павеце.

**14 снежня**

1795 — Загадам імператрыцы Кацярыны II Слонім атрымаў статус губернскага горада, куды павінен быў прыбыць генерал-маёр Іван Навіцкі — кіраўнік Слонімскай губерні ў складзе часткі Навагрудскага, Брэст-Літоўскага і Троцкага ваяводстваў ліквідаванай Рэчы Паспалітай.

1805 — У Слоніме за бойку з мясцовымі яўрэямі арыштавалі вядомага на той час авантурыста графа Фёдара Іванавіча Талстога (1782–1846).

1929 — Польскія ўлады забаранілі на тэрыторыі Заходняй Беларусі народны гімн «Ад веку мы спалі». У хуткім часе ён быў забаронены і ў Савецкай Беларусі.

**15 снежня**

1575 — Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Стэфан Баторый (кіраваў дзяржавай да 12 снежня 1586 года).

**16 снежня**

1942 — Гітлераўцы расстралялі 270 жыхароў вёскі Васілевічы. Затым спалілі вёскі Ніз і Паўлавічы. У Нізах былі расстраляныя 296 чалавек,

у Паўлавічах — 120 чалавек: жанчыны, дзеці і старыя. Мужчыны ад 16 да 40 гадоў былі вывезены ў Германію.

**17 снежня**

1849 — У Альбярціне каля Слоніма нарадзіўся Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат, калекцыянер, грамадскі дзеяч.

**18 снежня**

1501 — Жыхары Слоніма збіралі «татарскія ўпамінкі» — падатак, які выплачваўся крымскім татарам, каб не дапусціць іх набегу на беларускія землі.

**19 снежня**

1942 — У Слоніме гестапаўцамі расстраляныя каталіцкія манашкі Багуміла Найшэўская, Марта Валоўская і ксёндз Адам Старк.

**20 снежня**

1814 (паводле іншых звестак, 1 студзеня 1815) — У Варшаве памёр Ян Канопка, генерал ВКЛ, удзельнік паўстання 1794 года, вайны 1812 года на баку Напалеона. Месца пахавання невядомае.

1937 — У Мінску НКУС расстраляў Васіля Дружчыца (Друшчыца), беларускага гісторыка, педагога. Вучыўся ў Жыровічах.

**21 снежня**

1864 — Расійскімі ўладамі зачынены Слонімскі кляштар бернардзінцаў, у школе якога на той час навучалася 90 чалавек. Мясцовая бібліятэка з 2774 тамоў была перададзена ў Віленскую цэнтральную публічную бібліятэку. Будынак манастыра аддалі праваслаўнай царкве. Сёння ў ім Свята-Троіцкі сабор і інтэрнат медыцынскага каледжа.

1981 — Памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, беларускі спявак, педагог, дзеяч у эміграцыі. Нараджэнец вёскі Несцяровічы (Свіслацкі раён, па іншай інфармацыі — вёскі Шэйпічы Пружанскага раёна). Пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках. З канцэртамі выступаў у Слоніме.



**22 снежня**

1932 — У Заходняй Беларусі пачало дзеіць Таварыства беларускай асветы (ТБА). Існавала да жніўня 1937 года.

1942 — Фашысты падчас аблавы знішчылі 229 жыхароў вёскі Акунінава і спалілі 111 яе двароў.

**23 снежня**

1900 — У Альбярціне нарадзіўся Яўген Леашэня, генерал-лейтэнант інжынерных войск, кандыдат ваенных навук, беларускі краязнавец.

**24 снежня**

1761 — Нарадзіўся (Пазнаньскае ваяводства, Польшча) Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года.

1886 — У мястэчку Блошна на Слонімшчыне нарадзіўся яўрэйскі пісьменнік Наях Лур'е. Памёр у 1960 годзе.

1905 — Памёр Іосіф Бронскі, прадпрымальнік, уладальнік маёнткаў на Слонімшчыне.

1923 — У Альбярціне нарадзіўся Мікалай Казакевіч, польскі сацыёлаг, палітык, публіцыст, доктар гуманітарных навук, прафесар. Памёр у Варшаве ў 1998 годзе.

1942 — Фашысты расстралялі 14 жыхароў вёскі Азарычы.

**25 снежня**

Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

1795 — Утварылася Слонімская губерня.

1891 — У вёсцы Вішнева (Валожынскі раён) нарадзілася Уладзіслава Луцэвіч, беларуская літаратуразнаўца, культурная дзяячка, жонка Янкі Купалы, якая дапамагала ствараць Вялікакракоцкую сельскую бібліятэку, некалькі разоў наведвала вёску Вялікая Кракотка.

1938 — Выйшаў першы нумар «Газеты Слонімскай». Выдаўцы — беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн і ягоная жонка Людміла. Газета выдавалася на польскай мове, бо дазвол рабіць беларускае выданне Новікі не атрымалі ад польскіх уладаў.

1942 — У час карнай аперацыі «Гамбург» гітлераўцы расстралялі 84 мірных жыхароў вёскі Баравікі і спалілі 40 двароў.

1998 — Адбыўся першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі. Насельніцтва складала тады 10 045 200 чалавек, з іх 8 159 100 — беларусаў. Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.

2002 — У Слоніме памёр Уладзімір Шундрык, беларускі педагог, грамадскі дзеяч, краязнавец і паэт.

**26 снежня**

1865 — Нарадзіўся Уладзімір Пянткевіч, суперыёр і протаігумен усходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1925–1933 гадах.

2007 — Слонімскі мясакамбінат пачаў выдаваць сваю ведамасную газету.

**27 снежня**

1777 (паводле іншых звестак, 1775) — У маёнтку Скоўдзічы нарадзіўся Ян Канопка, генерал ВКЛ, удзельнік паўстання 1794 года, вайны 1812 года на баку Напалеона.

1901 — Нарадзіўся Фёдар Сінічкін, Герой Савецкага Саюза, былы старшыня Слонімскага гарвыканкама.

1904 — Нарадзіўся Сцяпан Пісакоў, савецкі вайсковец, ганаровы грамадзянін Слоніма. Памёр у 1992 годзе.

**28 снежня**

Міжнародны дзень кіно.

**29 снежня**

1895 — Выйшла з друку кніга І. Раманоўскага «Становішча горада Слоніма ў Літоўскай дзяржаве».

**30 снежня**

1868 — Адзін з архітэктараў Слоніма Ціхвінскі распрацаваў праект плана Слоніма, які быў зацверджаны ў 1873 годзе.



**31 снежня**

1907 — У Вялікабрытаніі памёр Майкл Маркс, брытанскі прадпрымальнік, адзін з сузаснавальнікаў фірмы «Marks & Spencer». Нарадзіўся ў Слоніме.



• *Мікола Арочка*



• *Багуміла Найшэўская*



• *Марта Валоўская*



• *Міхась Забэйда-Суміцкі, 1938 г.*



• *Уладзімір Пянткевіч*



• *Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы*



• *Ян Канопка*



• *Яўген Леашэня сярод слонімскіх школьнікаў*

# Імянны паказнік

# Змест